14 верасня 2018 | № 33 (596) Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы Час

novychas.by АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

**Самы антыамерыканскі фільм XXI стагоддзя**
Стар. 8

ISSN 2218-2144





**4 БЕЛАРУСЬ ГУБЛЯЕ ГРОДЗЕНШЧЫНУ?**

Пакуль беларускім уладам мрояцца планы Польшчы па «захопу» Заходняй Беларусі, сотні хлопцаў і дзяўчат з Гродзеншчыны едуць вучыцца ў Польшчу

**5 СВАБОДА МАСАВЫХ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ ЯК МАГІЧНАЯ ПРАКТЫКА**

Я падаў у Мінгарвыканкам 50 заяваў на правядзенне масавых мерапрыемстваў і атрымаў 50 адмоваў



**6–7 СПРАВЯДЛІВЫ КАРОЛЬ**

За некалькі месяцаў да смерці Аляксея Караля, напярэдадні яго 70-годдзя, Таццяна Мельнічук сустрэлася з ім і пагутарыла пра жыццё і прафесію

**10 АБАРАНІЦЬ ХЭЛЬ**

Сярод гераічных абаронцаў польскага паўвострава ў верасні 1939 года былі памежнікі з Заходняй Беларусі



# Дзякуй, што дасюль з намі!

**Тры гады таму, 12 верасня, не стала нашага Караля. Нашага сябра, паплечніка, галоўнага рэдактара.**




Былі боль, адчай, невыноснасць страты. Не было роспачы і разгубленасці. Было яснае ўсведамленне — яго няма, але газета павінна жыць. «Ён умеў ствараць каманду, ён стварыў каманду, і таму газета будзе выходзіць, наколькі нас толькі хопіць», — сказаў тады ў каментары «Радыё Свабода» Сяргей Пульша.

І газета выходзіла ўсе гэтыя тры гады, без яго і разам з ім. Мы адчувалі яго прысутнасць у нашых сэрцах і нашых тэкстах. Мы ў думках раіліся з ім і адчувалі яго падтрымку. Газета была справай яго жыцця, і, спадзяемся, у нас атрымалася годна працягнуць яго справу. Дзякуй нашаму Каралю за тое, што навучыў ісці наперад, рабіць сваю справу нягледзячы на ўсе перашкоды. Дзякуй, што дасюль з намі!

На жаль, у жыцця свае законы. За гэты час нас пакінула шмат цудоўных аўтараў. Нам іх не хапае, не хапае іх і чытачам. Выдатных музычных рэцэнзій Анатоля Мяльгуя, незабыўных найкаштоўных успамінаў Арсеня Ліса, грунтоўных гістарычных нарысаў Анатоля Валахановіча, цудоўных жыццёвых замалёвак Генадзя Шэршаня, узважаных аналітыкі Юрыя Хадыкі, найцікавых мастацтвазнаўчых артыкулаў Сяргея Гваздзёва. Гэтых аўтараў ужо няма з намі, але іх тэксты, іх думкі дасюль з намі, з нашымі чытачамі. Дзякуй ім за гэта!

На шчасце, у жыцця свае законы. І сёння ў рэдакцыі шмат цудоўных новых аўтараў. Маладых і грандаў. Хтосьці з іх з'явіўся дзякуючы конкурсу для маладых журналістаў, хтосьці ўбачыў у «Новым Часе» пляцоўку для выказвання сваіх думак, пасля таго, як стаў сталым чытачом, хтосьці знайшоў для сябе каманду аднадумцаў. Мы вельмі рады, што знайшлі гэтых людзей, што яны знайшлі «Новы Час». Дзякуй, дарагія мае, што дасюль з намі!

За гэты час мы нарэшце трапілі ў дзяржаўны распаўсюд, і зараз, вы, нашы шаноўныя чытачы, маеце магчымасць набыць нас у шапіках ды аформіць падпіску. Вы дасылаеце нам лісты і дзеліцеся сваімі праблемамі. Вы выказваеце словы падтрымкі і ўдзячнасці. Вас усё больш, і мы вельмі цешымся гэтым. А як было прыемна ўбачыць вашу падтрымку падчас судовых пасяджэнняў! Мы гэта адчувалі проста фізічна, і гэта было неверагодна. Напэўна, толькі ў такія моманты пачынаеш разумець, што робіш сваю справу не дарэмна. Дзякуй вам, нашы шчырыя і адданыя чытачы, што дасюль з намі!

Мы будзем імкнуцца і далей сумленна рабіць сваю справу. І далей радаваць вас нашымі артыкуламі. І далей быць разам з вамі, як бы цяжка часам ні было.

Тры гады без Аляксея, тры гады без нашага Караля, але наш «Новы Час» жыве. Гэта ён зрабіў з мяне рэдактара, гэта ён сабраў і дасюль збірае нашу каманду. Мы шмат праз што прайшлі разам: рэдкія выхады газеты і адсутнасць заробкаў, папярэджанні, штрафы, закрыццё, допыты ў КДБ. Газета была справай яго жыцця, ён вельмі яе любіў і вельмі ёй ганарыўся. А яшчэ ён вельмі любіў нас — усіх тых, хто рабіў газету, працаваў на сайце. Усіх тых, хто чакаў кожнага нумару і сачыў за ўсімі навінамі. І вельмі ўсімі намі ганарыўся.

Мы вельмі любілі яго, нашага Караля! З ім было лёгка і ўтульна, як не будзе ўжо ніколі... Дзякуй, што ён быў у жыцці кожнага з нас, дзякуй, што ён застаецца ў сэрцах кожнага з нас. Дзякуй, што дасюль з намі! З намі ўсімі!

# Таццяну Кім пераблыталі з Таццянай Севярынец

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Грамадская актывістка Таццяна Кім атрымала штраф 15 базавых велічынь за ўдзел ва ўсенароднай варце ў Курапатах 11 жніўня. Суд над жанчынай адбыўся 10 верасня, паведаміла яна НЧ.**

Працэс прайшоў у судзе Маскоўскага раёна Мінска.

Таццяну Кім затрымалі 11 жніўня ў Курапатах, калі яна вярталася дамоў пасля ўсенароднай вахты, на якую сабралася каля 20 чалавек. Актывістку завезлі ў Бараўлянскі РАУС, склалі пратакол і адпусцілі. У той дзень больш нікога не затрымлівалі, таму абаронцы здзівіліся інтарэсу супрацоўнікаў міліцыі да спадарыні Таццяны.

Потым стала зразумела, што Таццяну Кім паблыталі з Таццянай Севярынец: на відэа, знятым актывісткай Ганнай Шапуцькай, міліцыянт называе Таццяну Кім «Яўгенаўнай» (гэта імя па бацьку Таццяны Севярынец). Нягледзячы на памылку, Таццяна Кім у выніку атрымала штраф.

# Дзіця супраць дарослых

Ганна СЕВЯРЫНЕЦ

**Мала хто выклікае ў мяне такую ж безумоўную павагу, як дзіця, якое супрацьстаіць дарослым.**

Памятаю, як першы раз прывяла сваю вучаніцу на савет прафілактыкі. Я тады была маладая, зусім недасведчаная, і таму проста села там, дзе сядзелі ўсе дарослыя, — за сталом. А дзяўчо тое паставілі туды, куды ставяць такіх дзяцей, — адну, пасярод пустой прасторы, перад гэтым самым сталом, за якім паселі цёткі з начосамі. Ну, і я.

Мамка гэтай дзяўчынкі жудасна піла, бацька сядзеў у турме, старэйшая сястра памерла ад перадазіроўкі — таму на савеце прафілактыкі яна была зусім адна, вінаватая ва ўсіх школьных грахах: адсутнасці дзённіка, адсутнасці флікера, нявыкананых хатніх заданнях і гэтак далей. Дзіця, калі глядзець з-за «таго» боку стала, заўсёды ў нечым вінаватае перад школай.

На яе навалiлiся ўсім сталом. Ціхім, па-зьмяінаму спакойным шыпам пачала гутарку з ёй завуч па выхаваўчай працы. Строгім, халодным голасам дадала дырэктрыса. Горача, апантана сварылася матэматычка. Ківала галавой і я. Як даравацъ сабе тое ківанне? Я добра памятаю, як падымалася ўнутры мяне дзіўнае адчуванне павагі да гэтай няшчаснай малой: худзенькая, калмаценькая, у нейкім рыззі, у падраных ботах, стаяла яна перад саветам — і з выклікам глядзела на дарослых. Яна не пужалася, не адчувала сябе вінаватай. Яна ўсміхалася. «Якая хамка!» — з пачуццём сказала тады дырэктрыса.

Забыць той савет прафілактыкі і тую вучаніцу я не магу і па сёння. Тое, як мы ўсе, дарослыя, кінулі яе ў яе цяжкім жыцці і пачалі душыць, замест таго каб падтрымаць, як паставілі адну пасярод класа, як не далі нікога, хто мог бы абараніць. Як нерваваліся дарослыя, калі пабачылі, што з малой як з гусі вада. І якой спакойнай была яна, упэўненая ў сваёй перавазе.

Гэтай гісторыяй я ўжо неяк дзялілася: аднойчы ў адзін школьны музей прыехала цётка пры пасадзе правяраць, што збіраецца паказаць музей нейкім высокім гасцям. Паказваць збіраліся экскурсію: вялі яе дзве выпускніцы. «Так, гэтую дзяўчыну прыбіраем, надта ў яе выбітныя формы, — сказала цётка. — А гэтую пакідаем. Але каб перад гасцямі стаяла ў спадніцы, а не ў штанах». «Я не нашу спадніц, — спакойна і добразычліва сказала выпускніца. — У мяне прыгожы касцюм, прыгожая блузка». «Ты не пачула мяне, — узвысіла голас цётка. — Ты будзеш у спадніцы». Тады выпускніца паднялася, крыху нагнулася да цёткі і павольна паўтарыла: «Жанчына. Вы мяне не зразумелі. Я. Не нашу. Спадніц». Экскурсію для высокіх гасцей адмянілі.

Яшчэ неяк бачыла, як два завучы і дырэктар навіслі над невысокай адзінаццацікласніцай і на тры галасы сварыліся на яе: дзяўчына адмаўлялася ісці на «апошні званок» у савецкай школьнай форме. То-бок, у адну хвіліну яна рабіла адразу тры злачынствы: не слухалася дарослых, ламала традыцыю і псавала прыгожую карцінку. І я думаю: справа ж была не толькі ў адмове апранаць форму. Гадавыя адзнакі, экзаменацыйныя работы — усім, усім рызыкавала ў гэты момант дзяўчына. Але яе жаданне не падпарадкавацца было мацнейшым за цвярозы разлік.

Адкуль бяруцца ў іх сілы? Які неадменны закон прыроды дыктуе дзецям гэты адчайны і смелы супраціў? І якое шчасце для нас усіх — тое, што нашы дзеці ўсё ж знаходзяць у сабе рашучасць і моц сказаць даросламу «не». Бо іншыя дарослыя — пераважная большасць! — будуць узважваць і разлічваць, дыпламатнічаць і выкручвацца, ісці на кампраміс і скарацца «ў імя будучага». Колькі разоў бывала, што на барацьбу з несправядлівасцю выйдзе не волат, не мудрэц — выйдзе худзенькае, безабароннае дзіця.

Знайсці б у сабе моц і права стаць побач з ім у той пустэчы, межамі якой — сталы з суворымі адукацыйнымі цёткамі.

**«Радыё Свабода»**

# Два выбітных беларусы — Аляксандр і Алесь

Генадзь КЕСНЕР

**У Мінску ўшанавалі памяць лідара рок-гурта «Нейра Дзюбель» Аляксандра Кулінковіча і заснавальніка інфармацыйнай кампаніі БелаПАН Алеся Ліпая, якія заўчасна пайшлі з жыцця ў жніўні.**







Імпрэза прайшла ў кіназалі velcom-сінема і сабрала як сяброўды родзічаў гэтых выбітных суайчыннікаў, так і проста людзей, якім імёны Ліпая і Кулінковіча не абыякавыя.

Арганізатарам імпрэзы быў вядомы сцэнарыст і рэжысёр Андрэй Курэйчык. Ён пазнаёміўся з Кулінковічам гадоў восем таму і адразу адкрыў у гэтым неардынарным чалавеку не толькі адметнага музыку і выканаўцу, але яшчэ і паэта ды незвычайна таленавітага актора. Курэйчык зняў Кулінковіча ва ўсіх трох фільмах, якія паспеў зрабіць да гэтага часу. Па словах майстра, гэтых фільмаў магло б быць і болей, але няўмольны лёс, смерць, якая забрала Аляксандра, парушыла ўсе планы на будучыню.

З подыуму сваімі ўспамінамі пра Кулінковіча падзяліліся ягоныя калегі — музыкі «Нейра Дзюбеля», нязменным лідарам і фронтмэнам якога быў Аляксандр, вядомыя музыкі Ігар Варашкевіч з «Крамы», Аляксандр Памідораў, некаторыя іншыя.

На гэтай жа імпрэзе ўшанавалі памяць і Алеся Ліпая. Па словах намесніка старшыні Беларускай асацыяцыі журналістаў Алега Агеева, Алесь быў не толькі цудоўным журналістам, але і выбітным паэтам, цудоўным арганізатарам. Цяперашні кіраўнік БелаПАН Дзмітры Наважылаў дадаў, што Алесь Ліпай быў вельмі рознабаковым чалавекам, які мог спалучаць у сабе розныя таленты — ад паэта да бізнесоўца, ад журналіста да прадзюсара. Так, Алесь Ліпай быў сапраўдзюсарам камеды Курэйчыка «Party-zan Фільм».

Кампазітар і спявак Зміцер Вайцюшкевіч распавёў, што планавалася стварэнне цэлага альбома на вершы Ліпая, а пры жыцці Алеся былі напісаныя тры песні, адну з якіх Зміцер выканаў. Ён паабяцаў, што налета альбом будзе запісаны цалкам.

Пры канцы імпрэзы прысутныя пабачылі фільм Андрэя Курэйчыка «ГараШ», галоўныя ролі ў якім выканалі Аляксандр Кулінковіч і яшчэ адзін саліст «Нейра Дзюбеля» Юры Навумаў.

25 кастрычніка ў «Прайм-холе» адбудзецца вялікі канцэрт памяці Аляксандра Кулінковіча. Разам з музыкамі «Нейра Дзюбеля» ягоныя песні выканаюць Лявон Вольскі, Ігар Варашкевіч («Крама»), Алег Хаменка («Палац»), Уладзімір Пугач («J:Морс»), Аляксандр Памідораў і многія іншыя вядомыя выканаўцы. Сабраныя грошы пойдуць на помнік выбітнаму беларускаму музыку.

# Улады даюць зялёнае святло «крэмляботам»?

**Калі новыя правілы ідэнтыфікацыі карыстальнікаў будуць зацверджаныя, многія беларусы, напэўна, пабаяцца пакінуць крытычны каментар на сайце.**

Міністэрства інфармацыі апублікавала праект нарматыўна-прававога акта «Аб парадку папярэдняй ідэнтыфікацыі карыстальнікаў інтэрнэт-рэсурсу». Прапануецца ўзаконіць схему: хочаш пакінуць каментар — паказвай асабістыя дадзеныя: ад прозвішча да абаненцкага нумара.

Праект прадугледжвае, што ўладальнік інтэрнэт-рэсурсу зможа збіраць, апрацоўваць, захоўваць прозвішча, імя, імя па бацьку, пол, дзень, месяц, год нараджэння, месца нараджэння, адрас электроннай пошты і інфармацыю пра дату і час размяшчэння на інтэрнэт-рэсурсе паведамленняў, у тым ліку ідэнтыфікацыйныя звесткі пра прылады карыстальнікаў (MAC-адрас, унутраны і знешні IP-адрасы). Вышэйназваную інфармацыю трэба будзе падаваць у выпадку патрабавання з боку адпаведных дзяржорганаў.

Заснавальнік TUT.BY Юрый Зісер у каментары «Еўрарадыё» выказаў здагадку пра галоўную мэту гэтай прапановы. На яго думку, яна прыдуманая выключна для таго, каб запалохаць людзей і каб яны перасталі пісаць на форумах крытычныя каментары, якія не падабаюцца чыноўнікам. Бо «справа БелТА» паказала, што знайсці любога карыстальніка ўлады могуць і без прапанаванай ідэнтыфікацыі.

Мяркуючы па першых водгуках на форумах, многія карыстальнікі сапраўды гатовыя адмовіцца ад напісання каментараў на беларускіх рэсурсах. І не таму, што пішуць нешта супрацьзаконнае, а таму, што ў новых умовах будуць адчуваць сябе вельмі некамфортна.

Але ўлады, магчыма, не да канца прадумалі наступствы новаўвядзенняў. Бо карыстальнікі па-за межамі Беларусі наўрад ці будуць адчуваць такі ж страх, як беларусы. Менавіта яны ў каментарах атрымаюць магчымасць навязваць свой пункт гледжання іншым — тым, хто яшчэ не вызначыўся са сваімі поглядамі. Такім чынам, беларусы могуць падпасці пад уплыў «крэмляботаў», якія будуць фармаваць беларускую грамадскую думку.

Зрэшты, нават з зацвярджэннем новых правілаў беларускім карыстальнікам наўрад ці ўдасца заторкнуць раты. Можна меркаваць, што яны працягнуць пісаць каментары і выказваць свае стаўленне да рэалій — але ўжо на замежных пляцоўках: Фэйсбуку, «УКантакце», «Аднакласніках». Усе спробы стварыць «беларускую сацсетку» пакуль не мелі плёну.

**Паводле Gazetaby.com**

**Пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Уперад, на граблі!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Самы час ствараць сабе новыя праблемы, каб потым гераічна з імі спраўляцца, вырашылі ва ўладзе.**


Малюнак www.tomsk.cian.ru

Безумоўна, адной з сенсацый мінулага тыдня было тое, што беларуская ўлады адмовіліся ад грошай Міжнароднага валютнага фонду пасля таго, як не змаглі ўзгадніць з фондам хуткасць рэалізацыі структурных рэформаў. Пра гэта ў эфіры беларускага тэлебачання заявіў міністр фінансаў Беларусі Максім Ермаловіч.

«Мы распрацоўвалі разам з экспертамі МВФ праграму структурных рэформаў, якая б адпавядала філасофіі фонду. І ў прынцыпе, па ключавых момантах у нас пазіцыі супалі, мы выйшлі на праграму, але мы разышліся ў тэрмінах яе рэалізацыі», — сказаў Ермаловіч. Пры гэтым ён скарыстаўся выпадкам зваліць гэтае рашэнне на сумленне кіраўніка дзяржавы. Той неяк заяўляў, што рэформы, на якіх настойвае МВФ, нам патрэбныя, але так, каб гэта не стала «шокам для насельніцтва».

Такім чынам, фонд прапаноўваў нам правесці рэформы як мага хутчэй і даваў на гэта грошы. Наш жа кіраўнік хацеў, каб рэформы ішлі марудна.

Што самае цікавае ў гэтым пытанні? Тое, што пра новы крэдыт фонду і тэрміны правядзення рэформаў Беларусь перамаўлялася аж ад 2015 года. Праз тры месяцы (так, Новы год хутка!) настане 2019-ты. Падаецца, каб мы не жавалі соплі і не распускалі сліны ды пагадзіліся на ўмовы МВФ — мы б гэтыя рэформы за тры гады правялі і на іх ужо забыліся. Прынамсі, хто зараз узгадвае, што не так даўно заробак беларусаў разлічваўся мільёнамі? А прайшло з таго часу нават не тры гады. Прывыклі, прызвычаіліся...

Каб мы правялі рэформы... Аднак тады за штосьці б «перамоўшчыкі з МВФ» з ураду атрымлівалі б заробак, камандзіровачныя і прэміі? Лепей зацягнуць перамовы немаведама наколькі. Фонд ужо прыпыняў абмеркаванне крэдыту ў 2017-м. Потым перамовы ўзнавіліся. Зараз — зноў замарожаныя.

Праўда, краіна пры гэтым жыве ўсё горш і горш. Але «краіна» — паняцце размытае і абстрактнае, а заробак на картку чыноўніку налічваецца штомесяц. Таму, як трапна заўважыў у адным з каментараў наконт тэмпаў рэформ эканаміст Вадзім Іосуб, беларускай уладзе хацелася б, каб гэтыя тэмпы былі нулявымі. «Размовы пра тое, што ў беларускага боку і МВФ ёсць прынцыповая згода наконт таго, якія рэформы неабходныя, але мы не згодныя толькі з тэмпамі іх правядзення, ідуць ужо тры гады», — таксама заўважыў адмыслоўца.

Пытанне, дзе нам узяць грошы на далейшае існаванне, застаецца актуальным.

У сувязі з гэтым даволі цікавая навіна прыйшла з Расіі. Беларусь сто разоў спрабавала прыструніць Рассельгаснагляд, які высоўвае даволі дзіўныя прэтэнзіі да беларускіх прадпрыемстваў. Мы пісалі пра тое, што гэтая структура, нібыта з-за парушэнняў ветэрынарна-санітарных патрабаванняў, забараніла пастаўкі з Беларусі сухога малака і вяршкоў ва ўпакоўках больш за 2,5 літра. І здзіўляліся: чаму тыя ж прадукты, але ў меншай упакоўцы — нармальныя?

Зараз расійская Асацыяцыя прадпрыемстваў кандытарскай прамысловасці «Асконд» (аб'ядноўвае Mars, Nestle, «Аб'яднаных кандытараў» і іншых) паведаміла свайму прэм'еру Расіі Дзмітрыю Мядзведзеву пра дэфіцыт у галіне сухога малака. Ён узнік у выніку праблем у сувязі з забаронай на яго імпарт з Беларусі.

«Сухая малочная сыроватка і сухое малако — найважнейшыя інгрэдыенты для кандытарскай прамысловасці, і іх дэфіцыт ставіць расійскіх вытворцаў у цяжкія ўмовы», — гаворыцца ў лісце, які цытуе «Камерсант». Выканаўчы дырэктар «Асконда» Вячаслаў Лашманкін адзначае, што ўжо ўзнік востры недахоп якасных сухіх малочных прадуктаў, які не можа быць пакрыты расійскімі вытворцамі. Паводле яго слоў, у кандытарскай вытворчасці малочная сыравіна не падвяргаецца ўздзеянню высокіх тэмператур, таму патрабаванні да яе якасці высокія. У Расіі з-за дэфіцыту сырога малака на сушку часцяком адпраўляецца прадукт з адхіленнямі па якасці, і такая сыравіна не можа выкарыстоўвацца ў кандытарскай галіне.

Паводле ацэнак асацыяцыі, мясцовая сухая малочная сыравіна забяспечвае прыкладна 50% патрэбаў расійскіх кандытараў. Астатняе пакрываецца за кошт імпарту, пры гэтым большасць пастаўшчыкоў з краін далёкага замежжа былі заменены беларускімі. «Асконд» просіць Мядзведзева даручыць профільным міністэрствам прыняць рашэнне для забеспячэння расійскіх вытворцаў кандытарскіх вырабаў якаснай малочнай сыравінай па даступных цэнах.

Варта зазначыць, што аналагічны зварот ужо адпраўляўся Асацыяцыяй еўрапейскага бізнесу (АЕБ), першаму віцэ-прэм'еру Расіі Антону Сілуанаву, віцэ-прэм'еру Аляксею Гардзееву і міністру сельскай гаспадаркі Дзмітрыю Патрушаву. Аднак тыя нічога не змаглі зрабіць з Рассельгаснаглядам. Ці здолее выправіць сітуацыю Дзмітрый Мядзведзеў? Альбо расіяне застануцца без круасанаў да кавы?

Канешне, навіна аптымістычная. Але беларускім вытворцам сухога малака ўсё ж трэба задумацца: яно ім трэба? У сувязі з забаронай на пастаўкі ў Расію асаблівага падзення беларускай «малочкі» заўважана не было. А ў Расіі зараз пачынаюцца складаныя часы, выкліканыя заходнімі санкцыямі. Прынамсі два тыдні таму долар каштаваў 67 расійскіх рублёў, а на гэтым тыдні перасягнуў 70. Беларускім вытворцам трэба моцна падумаць, як пры пастаўках у Расію не апынуцца «ў мінусе» проста з-за курсавых ваганняў.

У любым выпадку, нам ёсць куды падзець свой прадукт. Напрыклад, 11 верасня Лукашэнка санкцыянаваў адпраўку дапамогі Венесуэле — 500 тон сухога малака. Прадукт вырабяць Лепельскі малочна-кансервавы камбінат і прадпрыемства «Беллакт», і зроблена гэта будзе «па венесуэльскіх стандартах». Сухое малако будзе ўтрымліваць вітаміны B і D.

Адзначаецца, што Беларусь аказвае дапамогу свайму стратэгічнаму партнёру ў Лацінскай Амерыцы, які знаходзіцца «ў складанай эканамічнай сітуацыі». У сталіцы Венесуэлы Каракасе з 10 верасня праезд у метро зноў стаў платным (бясплатны праезд існаваў з канца 2017 года), кошт паездкі вырас у 12,5 тысячы разоў!

Цікава, хто дапаможа нам, калі мы апынёмся ў той самай «складанай эканамічнай сітуацыі»? А гэта, зважаючы на дзеянні нашага ўраду, цалкам можа адбыцца.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Вольга Чайчыц



**Журналістка-фрылансер, падаецца, стане ў гэтым годзе рэкардсменам па штрафах.**

10 верасня суддзя Дзяржынскага раённага суда пастанавіла спагнаць з яе 980 рублёў за фотарэпартаж з пікету абаронцаў Курапатаў каля рэстарана «Паедзем, паядзім». Гэты штраф стаў для Чайчыц дзясятым за год, а іх агульная сума дасягнула ўжо 8330 рублёў — і працягвае расці. Адразу пасля інфармацыі пра штраф Чайчыц даведалася, што слонімская міліцыя склала на яе яшчэ адзін пратакол за журналісцкую дзейнасць.

Апроч таго, Чайчыц паспрабавалі абмежаваць выезд за межы краіны. Нягледзячы на тое, што журналістка мае на руках квітанцыі аб аплаце ўсіх штрафаў, ёй адказалі: немагчыма праверыць, ці ўся сума выплачаная, бо «не працуе база». Але база запрацавала на наступны дзень — і судовая выканаўца вымушаная была адкліцаць забарону.

На наступным тыдні ў журналісткі запланаваны сустрэчы ў Парыжы ў Міжнароднай федэрацыі журналістаў з прадстаўнікамі арганізацыі «Рэпарцёры без межаў». Пазней яна планавала выправіцца на сустрэчы ў Брусэль — у Еўрапарламент і ў Еўракамісію, каб расказаць пра сітуацыі са СМІ ў Беларусі.

## Іван Наскевіч



**Старшыня Следчага камітэта Беларусі Іван Наскевіч паабяцаў, што па «справе БелТА» ў дачыненні да незалежных журналістаў суровых мер не будзе.**

Па яго словах, гэтае злачынства не ўяўляе вялікай грамадскай небяспекі, а расследаванне не зацягнецца. Затрымка толькі з аглядам забранай у фігурантаў справы тэхнікі.

Наскевіч назваў справу аб несанкцыянаваным доступе да інфармацыі БелТА «банальнай» і «простай», яе расследаванне не ўяўляе складанасці. І пры гэтым яна «на пустым месцы набыла грамадскі рэзананс».

Старшыня СК перакананы, што фігуранты справы разумелі, што робяць. Адны з іх ставіліся абыякава, іншыя «свядома сталі на гэты шлях».

Следчы камітэт расследуе крымінальную справу пра незаконны доступ да платнай падпіскі дзяржаўнага інфармагенцтва БелТА. 7 жніўня адбылісяператрусы ў офісах БелаПАН, Tut.by. Былі затрыманыя восем чалавек: Марына Золатава, Ганна Калтыгіна, Галіна Уласік, Ганна Ермачонак, Таццяна Каравянкова, Паўлюк Быкоўскі, Аляксей Жукаў, Ірына Леўшына. Усіх іх пасля вызвалілі. Праз нейкі час стала вядома, што па справе ў якасці падазраванага праходзіць і рэдактар Tut.by Дзмітрый Бобрык.

Што цікава: «суровасць» мераў, па ідэі, павінен вызначаць суд, які ў краіне нібыта незалежны. Але Наскевіч ужо зараз кажа так, нібыта ведае яго вынік.

## Дыега Марадона



**Сусветная футбольная зорка моцна падставіла брэсцкае «Дынама».**

Аргентынскі спецыяліст стаў тэхнічным дырэктарам «Дарадаса», які гуляе ў другой лізе мексіканскага чэмпіянату, і заявіў, што перажывае лепшы момант у жыцці. Хаця раней ён стаў старшынёй праўлення ФК «Дынама» (Брэст). Ён яшчэ тры месяцы таму абяцаў падняць брэсцкае «Дынама» на новы ўзровень, і нават задумваўся наконт набыцця нерухомасці ў Беларусі.

Дыега Марадона заявіў, што не падпісваў кантракта з брэсцкім «Дынама», хоць «для падпісання было амаль усё гатова». У самым Брэсце сцвярджаюць адваротнае: дагавор падпісаны і ў сіле. Адзінае, што гэты дагавор не перашкаджае Марадоне займаць нейкія пасады ў іншых клубах.

Паміж Брэстам і мексіканскім Кульяканам, дзе базуецца «Дарадас», — больш за дзесяць тысяч кіламетраў. Але ў брэсцкім «Дынама» ўжо не хаваюць, што заданне Марадоны ў Беларусі заключалася толькі ў тым, каб папулярызаваць айчынны футбол і прыцягваць у клуб спонсараў. Гэта значыць, па сутнасці яго з'яўленне было ўсяго толькі рэкламнай кампаніяй. Якая, магчыма, скончылася.

# Беларусь губляе Гродзеншчыну?

Алесь КІРКЕВІЧ

**Пакуль беларускім уладам і сілавікам мрояцца планы Польшчы па «захопу» Заходняй Беларусі і перасоўванні мяжы пад Стоўбцы, на манер 1920–1939 гадоў, штогод сотні хлопцаў і дзяўчат з Гродзеншчыны едуць вучыцца ў Польшчу, каб развівацца не толькі з беларускай сістэмай адукацыі, але і з Беларуссю.**





Фота Анджэя Пачобута

Здавалася б, што дрэннага ў тым, каб беларускія маладзёны вучыліся на Захадзе? Узровень адукацыі найчасцей там сапраўды лепшы, дый наогул — лепш на Захад, чым на Усход, праўда ж? Разам з тым, такім чынам краіна планамерна губляе найбольш таленавітую і пасіянарную моладзь. Як гэта выглядае на практыцы?

На Гродзеншчыне працуюць дзве польскія школы, якія падпарадкоўваюцца дзяржаўнай сістэме адукацыі: у Гродна ды ў Ваўкавыску. Грамадская школа таксама дзейнічае пры неафіцыйным Саюзе палякаў, які ўзначальвае Анжаліка Борыс. Пасля чарговага расколу СПБ паўстала яшчэ адна грамадская школа, якая носіць імя Яна Паўла ІІ, яе кантралюе Мечыслаў Яцкевіч. Ну і, нарэшце, знакамітая Macierz Szkolna — грамадскі ліцэй са 100-гадовай гісторыяй, у якім зараз вучацца каля 2500 дзяцей.

Усе гэтыя ўстановы маюць наўпроставую сувязь з польскай сістэмай адукацыі. Пасля заканчэння ці дзяржаўнай школы, ці грамадскага ліцэю маладзёну варта толькі прыехаць, напрыклад, у Сакулку пад Беластокам, каб здаць выпускны экзамен (matura па-польску), — і дзверы польскіх ВНУ для беларусаў адчыненыя.

У марской школе Гдыні, скажам, раней нашых суайчыннікаў бралі наогул з мінімальнымі патрабаваннямі. Гэта, лічы, самы просты варыянт для фізічна здаровых хлопцаў з-пад Ліды ці Ваўкавыску. Наогул жа, з мінулага года ў Польшчы працуе адмысловая агенцыя, якая займаецца куратарствам навучання беларусаў, якім, зазвычай, дастаюцца спецыяльнасці са стыпендыяй ад 900 злотых на месяц і вышэй.

Не застаюцца ўбаку і агульнаадукацыйныя школы горада. Скажам, у адной з гродзенскіх гімназіяў у гэтым годзе з класу, у якім навучалася 15 чалавек, шасцёра паехалі здаваць экзамены і далей вучыцца ў Польшчы. У школе, якую я сам некалі закончыў, сёлета з трох адзінаццатых класаў, калі лічыць колькасна, адзін поўнасцю з'ехаў у Польшчу...

Канешне, улада спрабуе па-свойму рэагаваць на адток моладзі: на ўзроўні аблвыканкаму, гарвыканкаму і райана педагогам ладзяць «адлупы»: маўляў, як так, чаму выпускаеце дзяцей? Атрымліваецца, што вінаватыя... настаўнікі, якія нібыта дрэнна праводзяць прафарыентацыю падлеткаў. Гэта, фактычна, усё, што можа супрацьпаставіць бюракратыя аб'ектыўнаму працэсу вымывання моладзі, якая шукае за мяжой лепшай долі.

І зараз мы кажам толькі пра адукацыю, не кранаючы пытання агромністага адсотку працоўнай эміграцыі, працы Рыма-каталіцкага касцёлу ды іншых структураў. Агульны вектар тут цалкам зразумелы: калі польская моладзь ад'язджае на Захад, найперш, у Вялікабрытанію ды ЗША, то нехта мусіць заняць яе месца.

Вядома, што ў сучасным свеце галоўны рэсурс любой дзяржавы — не тэрыторыя, і нават не нафта з газам. Галоўны рэсурс — гэта чалавечы патэнцыял, працавітыя рукі ды светлыя галовы. Першымі, здаецца, гэта ў свой час зразумелі амерыканцы: вынік відавочны. У гэтым святле трызненні нашых ідэолагаў і сілавікоў пра нейкія базы NATA ля мяжы,

**Не варта вінаваціць Польшчу, якая цалкам сыходзіць са сваіх прагматычных інтарэсаў. Праблема ў тым, што Беларусь нічога не можа супрацьпаставіць гэтаму працэсу. Пагрозлівыя мантры на нарадах упраўлення адукацыі — гэта спроба заткнуць анучай дзірку ў тонучым «Тытаніку»**

«Вейшнорыю» ды «прапольскіх сепаратыстаў» — поўная лухта, узгадаваная савецкімі падручнікамі мінулага стагоддзя.

Здаецца, нават такі монстр, які жыве катэгорыямі мінулага, як наша ўсходняя суседка, гэта пакрысе разумее, бо не спяшаецца прымаць у свой склад тыя ж ДНР-ЛНР. Правільна, а навошта Расіі разбураны вайной дэпрэсіўны і ўбыточны рэгіён, які пацягне на сябе купу грошай з бюджэту? Тое самае і з Заходняй Беларуссю. Навошта яна Польшчы як тэрыторыя, забудаваная савецкімі прадпрыемствамі, з купай сацыяльна-эканамічных праблемаў? Без патрэбы. А вось выцягнуць з гэтай тэрыторыі больш-менш сэнсоўную моладзь — гэта вельмі мудра і перспектыўна.

Але не варта вінаваціць у чымсьці Польшчу, якая цалкам сыходзіць са сваіх прагматычных інтарэсаў. Праблема ў тым, што Беларусь пакуль нічога не можа супрацьпаставіць гэтаму працэсу. Пагадзіцеся, што пагрозлівыя мантры на нарадах у гарвыканкаме ці ўпраўленні адукацыі — гэта спроба заткнуць анучай дзірку ў тонучым «Тытаніку».

З вышэйсказанага напрошваецца некалькі высноў. Працэс, з якім мы маем справу, аб'ектыўны для ўсяго свету, людзі цягнуліся і будуць цягнуцца да лепшага жыцця. Беларусы едуць у Польшчу, палякі — у Вялікабрытанію, а брытанцам, відаць, застаецца ехаць толькі на Месяц альбо, ужо ў пенсійным узросце, на Маёрку. Адначасна месцы з'ехаўшых беларусаў у перспектыве будуць займаць рускія, чые месцы ўжо зараз займаюць кітайцы альбо каўказцы. Атрымліваецца такі сабе чалавечы Гальфстрым, які, не ведаючы межаў, працінае акіяны і прастору.

У якасці прамежкавай высновы можна задумацца пра лёс і перспектыву Саюза палякаў у Беларусі. Падтрымліваючы польскія адукацыйныя праграмы і накіроўваючы тутэйшых дзяцей ва Вроцлаў ці Кракаў, Саюз палякаў планамерна працуе на самазнішчэнне. Чаму? Бо такімі тэмпамі ў перспектыве палякі і тыя, хто пажадаў імі стаць, наўпрост скончацца ў нашым рэгіёне.

Ну і галоўная выснова: Заходняя Беларусь — гэта не «Гродна-Азот», «Лідскае піва», і нават не замкавыя муры ў Наваградку. Заходняя Беларусь — гэта людзі, моладзь, і пра гэты капітал трэба клапаціцца найбольш. Адміністратыўнымі мерамі вышэйзгаданы «Гальфстрым» у сучасным свеце адкрытых межаў спыніць наўпрост немагчыма: атрымаецца антыўтопія — чытай, Паўночная Карэя. А значыць, адзіны сродак пакінуць моладзь на сваёй зямлі — зрабіць Беларусь больш прывабнай і камфортнай у плане навучання, атрымання прафесіі, бізнесу і пражывання. А яшчэ — нарэшце навучыць моладзь любіць сваё. І гэтаму акурат у палякаў варта было б павучыцца!

# Беларусы сталі часцей ездзіць на заробкі за мяжу

**У другім квартале гэтага года за мяжой працавалі 88 тысяч чалавек. Гэта вынікае з дадзеных выбарачнага абследавання Белстатам хатніх гаспадарак для вывучэння праблем занятасці насельніцтва.**

Гэта на 12,2 тысячы, або 16,1% больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. У статыстыцы ўлічваюцца тыя, хто працаваў за мяжой да года. Для параўнання: у 2014 годзе за межамі краіны, паводле афіцыйнай статыстыкі, працавала 62,2 тысячы чалавек, у мінулым — амаль на 21 тысячу больш. Пры гэтым нашы суайчыннікі часцей за ўсё шукаюць працу ў Расіі: у 2017-м амаль 84% беларусаў, якія з'ехалі на заробкі, «аселі» ў гэтай краіне. У мінулым годзе ў РФ працавалі каля 70 тысяч чалавек.

Паводле дадзеных Дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС, на заробкі ў першым паўгоддзі з'ехалі 5882 беларусы. Пры гэтым часцей з'язджаць за мяжу сталі ва ўсіх рэгіёнах, за выключэннем Мінскай і Магілёўскай абласцей (тут назіралася адваротная тэндэнцыя).

Найчасцей едуць на заробкі мінчане — 1955 чалавек у першым паўгоддзі (на 421 чалавека больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года). Следам за сталіцай па гэтым паказчыку ідуць Гомельская і Гродзенская вобласці — 936 і 889 адпаведна (годам раней — 744 і 591 чалавек). Віцебская вобласць па гэтым паказчыку займае толькі 5-е месца сярод усіх рэгіёнаў, яна ідзе следам за Магілёўскай.




Фота www.radiopolsha.pl

Так, з Віцебскай вобласці, паводле афіцыйнай статыстыкі, на заробкі ў студзені-чэрвені гэтага года выправіліся 784 чалавекі (годам раней — 751).

Радзей за ўсё працаўладкоўваюцца за мяжой жыхары Мінскай вобласці — 65 чалавек у першым паўгоддзі (год таму — 256).

Больш актыўна суайчыннікі выпраўляюцца на заробкі ў Расію (2676 чалавек у першым паўгоддзі), Польшчу (1624), Літву (695), ЗША (274) і Германію (208). У топ-10 краін, у якіх беларусы часцей за ўсё знаходзяць працу, таксама ўваходзяць Чэхія (208), Фінляндыя (81), Кітай (49), Катар (22), Карэя (18).




# Свабода масавых мерапрыемстваў як магічная практыка

Дзяніс ТУШЫНСКІ

**Карлас Кастанеда, амерыканскі містык, антраполаг і пісьменнік, увёў ва ўжытак панятак «нядзеянне». Нядзеянне, паводле старажытнай мексіканскай сістэмы магічных ведаў і практык — гэта здзяйсненне чагосьці бессэнсоўнага, незвычайнага і нязвыклага. Мэта нядзеяння — разбурыць шаблонную сістэму інтэрпрэтацыі свету і ў перспектыве дасягнуць рэальнага ўспрымання рэчаіснасці. Некаторыя прыклады нядзеяння: пастаянна насіць чорны капялюш, спыніць унутраны дыялог ці, гледзячы на дрэвы, фіксавацца не на іх саміх, а на іх ценях. Паралелі можна знайсці ў іншых містычных і рэлігійных традыцыях.**

## Беларуская практыка

У Беларусі шмат магчымасцяў для такіх практык. Напрыклад, можна прымусіць сябе верыць у рэальнасць «па пяцьсот». Яшчэ адзін варыянт — медытацыя над якім-небудзь беларускім каанам (каан у дзэн-будызме — кароткі, прызначаны для дасягнення прасвятлення, тэкст ці пытанне, адказ на якое мусіць быць не лагічным, а інтуітыўным). Напрыклад, што такое воплеск адной далоні? Ці як можна далучыцца да Балонскага працэсу і не абіраць рэктараў дзяржаўных ВНУ?

Маім нядзеяннем у апошнія некалькі месяцаў было атрыманне дазволу на правядзенне масавага мерапрыемства ў Мінску. Акрамя прагі духоўнага развіцця, быў і іншы матыў — выказаць пратэст супраць знішчэння сотняў дрэваў і кустоў і супраць зносу будынка пачатковай школы дзеля пабудовы адміністрацыйнага гмаху на вуліцы Данілы Сердзіча, 12. А таксама выказацца супраць беззаконня, якім усё гэта суправаджалася: прыняцце рашэння аб будаўніцтве да правядзення грамадскага абмеркавання, няўлік трох чвэрцяў дасланых зваротаў, жалезабетоннае ігнараванне негатыўнага меркавання мясцовых жыхароў. Больш за тое, як нядаўна высветлілася, Архітэктурна-будаўнічая рада нават не передала заўвагі і прапановы грамадзян праекціроўшчыку, парушыўшы не толькі Палажэнне аб правядзенні грамадскіх абмеркаванняў, але і ўласнае рашэнне: «Праектаванне весці з улікам пастуніўшых заўваг і прапаноў». Можа, гэта іх нядзеянне? Урэшце, будаўніцтва вядзецца не ў адпаведнасці з перадпраектнай дакументацыяй: нядаўна пачалі ссякаць дрэвы пад неаб'яўлены пажарны праезд — удалося спыніць пільшчыкаў з дапамогай міліцыі.

## Прасіць міласціну ў статуй

За апошнія два месяцы я падаў у Мінгарвыканкам 50 заяваў на правядзенне масавых мерапрыемстваў і атрымаў 50 адмоваў. Прыгадваецца Дыяген Сінопскі, які прасіў міласціну ў статуй, каб прывучыць сябе да адмоваў. Для тых, хто пажадае пайсці да прасвятлення гэткім жа шляхам, цікава будзе даведацца, што іх можа чакаць.

Магічны (ці, хутчэй, абсурдны) рэалізм пачынаецца з Закона аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь. Аказваецца, панясце «масавы» зусім не азначае, што ўдзельнічаць у мерапрыемстве мусяць масы ці хаця б некалькі чалавек. Масавым мерапрыемствам у нас з'яўляецца і пікетаванне, якое публічна праводзіцца адным (!) чалавекам. Атрымліваецца, што масавасць вызначаецца не колькасцю ўдзельнікаў, а колькасцю тых, хто ў прынцыпе можа аказацца сведкамі «публічнага выражэння грамадска-палітычных, асабістых і іншых інтарэсаў або пратэсту». Але тады пад пікетаванне падпадае і артыкул у газеце, і інтэрв'ю для тэлебачання ці радыё...

Не забывайцеся, што нішто не вечнае, прынамсі, тэрмін дзеяння кантракта. Падаючы заяўку, вы пазначаеце ў ёй у тым ліку і месца працы.

Могуць узнікнуць складанасці са знаходжаннем месца для мерапрыемства. Адмысловай пастановай Мінгарвыканкам вызначыў усяго тры спецыяльныя пляцоўкі для іх правядзення. Ёсць таксама шэраг месцаў, дзе правядзенне мерапрыемстваў забараняецца. Што ж да астатніх кропак, то значэнне мае іх адлегласць ад пэўных катэгорый аб'ектаў і будынкаў. Гэтак, легальна правесці мерапрыемства насупраць галоўнага будынка Мінгарвыканкама немагчыма — бо ёсць патрабаванне рабіць гэта не бліжэй за 50 метраў ад будынкаў мясцовых уладаў, не бліжэй за 200 метраў ад станцый метро і гэтак далей. Не, я разумею чыноўнікаў. Масавыя пратэсты пад вокнамі будуць перашкаджаць іх уласным духоўным практыкам, якія патрабуюць аскезы і засяроджанасці.

Мне, дарэчы, падабаецца традыцыя прыёму грамадзянаў вышэйшымі жрацамі гарадской улады не ва ўласных кабінетах, а ў спецыяльным пакоі на першым паверсе Мінгарвыканкама. Кабінет знаходзіцца ў невялікай зоне агульнага доступу. Паўстаў і адпаведны рытуал: чыноўнік у рэдкія, вызначаныя дні, сыходзіць са сваіх эмпірэяў да людзей. Я параіў бы дадаць публічнае рытуальнае ачышчэнне ад мірскога, дольняга. Пасля сустрэчы з народам чыноўнік можа скокнуць над вогнішчам, акунуцца ў спецыяльны вадаём ці абцерціся цестам.

## Духоўнае развіццё грамадзян

Разгледзім найбольш частыя прычыны адмоваў. Адна з іх — «у заяўлены час у заяўленым месцы запланавана правядзенне іншага мерапрыемства». У такім лаканічным адказе я бачу клопат улады аб духоўным развіцці грамадзянаў. Маглі б з павагі да заяўніка напісаць, што гэта за мерапрыемства, прапанаваць перанесці пікет на іншы час і гэтак далей. Але, верагодна, выканкам у курсе, што, згодна з тым жа Кастанедам, адзін з галоўных ворагаў на шляху мага — пачуццё ўласнай важнасці, празмернае эга. Тут прыгадваецца канцэпцыя дробных тыранаў. Паводле Карласа Кастанеды, гэта людзі, якія маюць уладу над вашым жыццём ці, у мяккім варыянце, проста вас раздражняюць. Адносіны з дробнымі тыранамі якраз і выкарыстоўваюцца дзеля барацьбы з пачуццём уласнай важнасці.

Адказы такога тыпу інтрыгуюць і правакуюць паехаць і паглядзець на таямнічае «іншае мерапрыемства». Але тут вас можа чакаць расчараванне. Гэтак, 10 ліпеня ў Кіеўскім скверы я знайшоў пустую пляцоўку. Магчыма, каб успрыняць мерапрыемства, трэба было знаходзіцца ў зменены стане свядомасці? Мне ж удалося заўважыць толькі нарад міліцыі, які ахоўваў пляцоўку на працягу таго часу, які быў пазначаны ў заяўцы.

Яшчэ адзін тып адказаў, падобны да папярэдняга, — не дазваляецца, бо заяўка супярэчыць артыкулу 2 (ці якому іншаму) Закона аб масавых мерапрыемствах. Адказ прымушае развіваць інтэлект, інтуіцыю і ўважлівасць, бо ў чым канкрэтна заключаецца неадпаведнасць, не паведамляецца.

**У законе не агаворана шэсце, якое здзяйсняецца адным чалавекам. Аднак чалавек, які правёў такое шэсце, быў аштрафаваны за несанкцыянаванае масавае мерапрыемства. На заяўкі на правядзенне такіх шэсцяў мне адмаўлялі на падставе Закона аб масавых мерапрыемствах**

Наступная прычына адмоваў — санітарная апрацоўка дрэваў у заяўленым месцы. Яна найчасцей называлася ў дачыненні да Кальварыйскага сквера перад адміністрацыяй Фрунзенскага раёна. Гэта тонка — адмаўляць у пікеце супраць знішчэння дрэваў на падставе «аднаўлення зялёнай зоны», хай сабе і ў іншым месцы. Прычым урэшце пачалі прыходзіць, так бы мовіць, апераджальныя адмовы. Маўляў, Зелянбуд працуе ў скверы з 13.07.2018 г. па 12.08.2018 г. (чытай: не суньцеся больш з вашымі заявамі, усё роўна адказ будзе той самы). Натуральна, канкрэтныя даты, час працаў і тлумачэнні, чаму гэтыя працы не стасуюцца з пікетам з некалькіх чалавек, не прыводзіліся.

## Шляхі да самаўдасканалення

Як ні стараліся распрацоўшчыкі Закона аб масавых мерапрыемствах загнаць у гэты пракрустаў ложак максімум формаў грамадскай актыўнасці, сёе-тое яны прапусцілі. Напрыклад, у законе не агаворана шэсце, якое здзяйсняецца адным чалавекам. Тым не менш, СМІ пісалі пра чалавека, які правёў такое шэсце і быў аштрафаваны за несанкцыянаванае масавае мерапрыемства. На мае заяўкі на правядзенне такіх шэсцяў мне таксама адмаўлялі на падставе Закона аб масавых мерапрыемствах.

У шэрагу адказаў чыноўнікі адкідаюць таямнічую нешматслоўнасць і спрабуюць канкрэтызаваць свае адмовы. Гэта іх памылка: аргументацыя выглядае непераканаўча. Гэтак, у «шэсці аднаго чалавека» адмаўляюць, бо па пазначанай у заяве пешаходнай частцы вуліцы праходзіць веладарожка. Адмова абсурдная, бо, паводле адпаведных тэхнічных нарматыўна-прававых актаў, пешаходная дарожка і веладарожка — гэта асобныя часткі вуліцы, якія супадаць не могуць.

Больш за тое, «шэсце аднаго чалавека», аказваецца, будзе адцягваць увагу кіроўцаў, што можа стварыць небяспечную сітуацыю на дарозе. Можа, афіцыйныя мерапрыемствы кіроўцам настолькі абыякавыя, што ўвагу на іх ужо ніхто не звяртае? Пра білборды, вітрыны і шыльды ўздоўж дарог маўчу. Прыгадайма яшчэ сумнавядомую машыну хуткай дапамогі, якую не прапусціла калона тэхнікі на рэпетыцыі параду...

У прычынах адмовы ёсць і тое, што пешаходная частка вуліцы, на якой замоўлена шэсце, «блізкая да праезджай часткі», хаця адлегласць да яе 7 метраў, іх раздзяляе тая ж веладарожка, а таксама прыдарожныя дрэвы. Ды і ўвогуле, якая пешаходная частка вуліцы не блізкая да праезджай?

Нядаўна Палата прадстаўнікоў прыняла змены і дапаўненні ў Закон аб масавых мерапрыемствах, асноўная частка якіх набудзе моц праз паўгода. Але гэтыя змены не закранаюць мерапрыемстваў, што маркуецца правесці не ў «пастаянных месцах правядзення». І нават у гэтых «пастаянных месцах» вам па-ранейшаму могуць адмовіць у правядзенні пікета, калі нехта падаў заяўку на гэта месца і час раней за вас. Я думаю, што гэтыя «нехта» заўжды будуць вас апярэджваць...

Урэшце, я падаў скаргу на дзеянні Мінгарвыканкама ў суд. Ці стане абскарджванне новым нядзеяннем — высветліцца бліжэйшым часам.

# Справядлівы Кароль

**Тры гады таму, 12 верасня 2015 года, спынілася сэрца нашага галоўнага рэдактара Аляксея Караля. За некалькі месяцаў да гэтага, напярэдадні яго 70-годдзя, Таццяна Мельнічук сустрэлася з Аляксеем і пагутарыла пра жыццё і прафесію. Мы вырашылі паўтарыць тое інтэрв'ю, каб нашы чытачы яшчэ раз узгадалі шчырага і светлага чалавека Аляксея Караля. (Скарочана, цалкам інтэрв'ю можна прычытаць на сайце Беларускай асацыяцыі журналістаў).**



Я ўпарта настойвала на гэтай размове, бо ўсе, ад каго спрабавала дазнацца пра «таемныя радзімкі» Караля, перш за ўсё адзначалі: «Кароль — справядлівы!»

***— Вядома, што журналісты — людзі языкастыя, і ў размовах паміж сабой, як дойдзе да ацэнак начальнікаў-рэдактараў, стрымлівацца не прынята. Але супрацоўнікі газеты, якую ўзначальваеце вы, натуральна і нязмушана раздаюць вам кампліменты — без двукоссяў. Не хачу правакаваць вас на кампліментарны адказ, але што вы з імі робіце?***

— Я, бадай што, не адкажу ўцямна, бо ніколі не задумваўся над гэтым... У свой час, напачатку 1990-х гадоў, была задача стварыць газету. Усё астатняе выбудоўвалася і набудоўвалася ў працэсе працы, натуральным чынам. Усё звычайна: фармуецца канцэпцыя газеты, абмяркоўваецца, прымаецца, і ў гэтую канцэпцыю кладуцца журналісцкія матэрыялы.

Можа быць дрэннай канцэпцыя — тады яе трэба мяняць, зноў абмяркоўваць. Калі гэта робіцца адкрыта і калектыўна, няма глебы для спрэчак і крыўды.

Другі прынцып, якога я трымаюся свядома, можна азначыць так: найлепш чалавек робіць тыя справы і піша на тыя тэмы, да якіх у яго ляжыць душа.

Вось і ён выбірае, і я выбіраю, што ў журналіста лепш атрымліваецца, і такім чынам прынцып супрацоўніцтва сфармаваны.

Да таго ж — і гэта кожны ў нашай рэдакцыі разумее — аплата залежыць ад унёску ў супольную працу. І калі рэдактар, і галоўны рэдактар не багацейшыя за супрацоўнікаў, гэта таксама ацэньваецца і ўплывае на рэдакцыйны клімат. На жаль, у нашых недзяржаўных газетах не даводзіцца разлічваць на значныя прыбыткі, але абавязак рэдактара — забяспечыць хаця б «негалодныя» заробкі і празрыстасць у размеркаванні рэдакцыйных сродкаў.

***— Аляксей Сцяпанавіч, а вы ўвогуле кантралюеце сваіх супрацоўнікаў?***

— Ды асабліва не даводзіцца кантраляваць: дамаўляемся, хто што робіць, і гэта робіцца. Нешта адсочваеш, канешне, нешта абмяркуеш, з нечым паспрачаешся, але гэта нармальна.

Я б не сказаў, што я занадта дэмакратычны кіраўнік, але не аўтарытарны да таго, каб ісці на злом пазіцыі ці меркавання журналіста. Атмасфера ў нас склалася нармальная, людзі вакол мяне разумныя.

Дзякуй, што перадалі ацэнкі «курылкі» — у нашай рэдакцыі не прынятыя «кампліментарныя вадаспады». Жарты, іронія — звычайная атмасфера. Нават калі віншуем каго, то без патэтыкі, але з добрымі сяброўскімі кпінамі.

***— Вы сказалі пра стварэнне газеты «напачатку 1990-х». Вы пра газету «Згода»?***

— Так. Стварэнне «Новага Часу» было вымушаным крокам, таму што «Згода» была закрытая рашэннем суда ў 2006 годзе, перад прэзідэнцкімі выбарамі. На прэзідэнцкую пасаду вылучаўся Аляксандр Казулін, у выступе на Усебеларускім сходзе Лукашэнка пагразіў, што «газетка», якая Казуліна падтрымлівае, будзе закрытая, і журналісты, калі будуць прызнаныя вінаватымі, будуць сядзець у турме.

Закрыццё праз суд было ці не першым выпадкам у гісторыі беларускай недзяржаўнай журналістыкі нашага часу, але журналісты, дзякуй Богу, засталіся на волі. Праз год (зноў жа ці не выключны выпадак) нам удалося стварыць новую газету. Гэта было вельмі няпроста.

Пры дапамозе юрыстаў БАЖа мы старанна вывучылі заканадаўства, знайшлі нестыкоўкі і шчыліны. Да таго ж, маё прозвішча пры гэтай спробе нідзе не фігуравала, яно з'явілася толькі ў другім нумары «Новага Часу».

За «Новы Час» трэба падзякаваць Таварыству беларускай мовы, Алене Анісім і Алегу Трусаву. Яны аддалі нам імя зарэгістраванай газеты. Да нашага супрацоўніцтва выйшла 48 нумароў, але газета выходзіла нерэгулярна. Зараз у «Новага Часу» ўжо пад 450 нумароў.

Так што «Новы Час» — яскравы прыклад таго, што можа даць супрацоўніцтва дэмакратычных сіл, структур, асоб. Учынак ТБМ мы запомнілі, гонар ім і пашана.

Напрыканцы 2007 года нас — ужо «Новы Час» — зноў паспрабавалі закрыць. Але ўдалося адстаяць выданне, у многім дзякуючы салідарнай падтрымцы ўсіх незалежных сродкаў масавай інфармацыі, якія пачалі кампанію ў нашу падтрымку і абарону. Дапамагла і рэакцыя міжнароднай грамадскасці, высокіх кіраўнікоў Еўразвязу.

20 снежня 2007 года суд Першамайскага раёна Мінска пастанавіў спагнаць 50 мільёнаў рублёў з выдаўцоў «Новага Часу» і 1 мільён — з журналіста Аляксандра Тамковіча на карысць Мікалая Чаргінца. Падставай для зыску быў артыкул «Генерал-сенатар Мікалай Чаргінец».

***— У «Новы Час» вы прывялі з сабой калектыў «Згоды»?***

— Ядро каманды захавалася. Прыйшлі потым і новыя людзі, але яны ўліліся ў каманду, яны ўспрымаюць «Новы Час» як сваё. Гэта каманда, гэта не найміты, гэта не падзёншчына. Можа, таму ў нас атрымліваецца працаваць на прынцыпах справядлівасці і салідарнасці.

На нашу канцэпцыю ў «Новым Часе» істотна паўплываў выбар мовы. У «Згодзе» мы давалі матэрыялы і на рускай, і на беларускай мовах. І заўсёды атрымлівалася, што руская мова перавышала вызначаныя намі квоты: то журналісту цяжка пісаць па-беларуску, то рэдакцыі не хапае часу перакласці, нешта яшчэ — ай, ладна, хай ідзе!

У Алега Трусава пазіцыя была прынцыповай: толькі на беларускай мове! І я згадзіўся: мова для Беларусі — гэта прынцыпова.

А мова, па сутнасці, ужо дыктуе канцэптуальныя падыходы. Беларуская ідэя, сфармаваная яшчэ на пачатку XIX стагоддзя, базавалася на каштоўнасці мовы, культуры, на якіх павінна будавацца дзяржаўнасць і незалежнасць.

Вось асноўныя апоры нашай канцэпцыі. Плюс мы дадалі тры газетныя паласы пра замежжа. Прычым гэта не паўтор гучных публікацыяў з іншых крыніц, а цалкам арыгінальны матэрыял, спроба асэнсавання нашай, беларускай, сітуацыі ў кантэксце развіцця сітуацыі ў свеце.

***— Спадар Аляксей, вы як рэдактар больш любіце працаваць з маладымі журналістамі ці са сталымі?***

— Мы, як і ўсе незалежныя выданні, не маем сродкаў, каб утрымліваць вялікі калектыў. Газету робяць дзевяць чалавек; тых, хто нам актыўна піша — больш за 20. У нас няма падзелу па ўзросце ці былых заслугах: калі 20-гадовы напісаў годны артыкул, і я, і супрацоўнікі рэдакцыі аддадуць яму належнае гэтак жа, як адзначаць рэдакцыйнага ветэрана.

Год таму да нас прыйшла Віка Чаплева, студэнтка другога курса, прапанавала добры матэрыял. Зараз яшчэ два хлопцы з журфака прыйшлі, друкуюцца ў газеце і на сайце.

Я ўзгадваю ваш калектыў, «Беларускую маладзёжную». Сяргей Пульша, які працаваў у «Маладзёжцы», зараз працуе ў нас. Дагэтуль працаваў у БелаПАН, займаўся вытворчасцю кароткіх інфармацыйных паведамленняў. Калі прыйшоў да нас і мы абгаворвалі тэматыку, я кажу: «Пішы, як хочацца». І Сяргей раскрыўся, ён цудоўны ў аналітыцы палітычнай, партрэтных нарысах, пазнавальны з ягонай тонкай ironіяй, асабістым стылем, без перахлёстаў, фактычна дакладны.

Задача кіраўніка выдання — даць журналісту магчымасць выявіць і прадэманстраваць свае таленты.

А тыя, хто пачынаў газету, былі маладымі, зараз сталі сталымі... Сярэдні ўзрост у нашай рэдакцыі — недзе каля 40. Але ў гэтай лічбе амаль што толькі мая заслуга, маіх 70 гадоў.

***— Аляксей Сцяпанавіч, адкуль у вас такое прозвішча — Кароль? Каралеўскія карані маеце? Ці гэта ад побытавага заходнебеларускага: кароль, мяккі хатні трусік?***

— У Беларусі, дарэчы, не так мала людзей з прозвішчам Кароль. Я зацікавіўся — багата Каралёў ва Уздзенскім, Бярэзінскім раёнах. Мой бацька якраз з Бярэзінскага раёна. Навукоўцы, з якімі я размаўляў, лічаць, што ў Беларусі гэта прозвішча не ад царскіх пасадаў, а ад умення ў працы: кароль у сваёй працы. І таму то там, то там узнікалі Каралі.

***— Вы паходзіце з вёскі?***

— Хутчэй з горада, з раённага цэнтра. Па лініі мамы прабабка была прыгоннай. Не шляхта (падкрэсліваю тым, хто зараз актыўна шукае ў сабе «блакітную кроў»), я прыгонны селянін, у мяне няма шляхецкай пыхі. Але дзед мой быў лесніком-аб'ездчыкам, гэта ўжо дастаткова высокая пасада на той час.

Бацька мой быў сірата. У 12 гадоў айчым выгнаў яго з хаты, ён беспрытульнічаў, потым, калі вылавілі, навучаўся ў каваля, трапіў на завод, потым у ПТВ. Вайну сустрэў на камсамольскай пасадзе ў Беластоку; да ваенкамата дайсці не паспеў, па тылах з баямі выйшаў пад Масквой. Затым ваяваў, пяхота на перадавой, дайшоў да Кёнігсберга. Перадапошняя пасада майго бацькі — старшыня Смаргонскага райвыканкама. З-за наступстваў раненняў бацьку ампутавалі нагу, перавялі ў Маладзечна, пэўны час працаваў дырэктарам піўзавода, потым сышоў на пенсію.

Так што Смаргонь і Маладзечна — мае родныя гарады. Да сёмага класа я вучыўся ў Смаргоні; з Маладзечна паступіў на гістфак педінстытута, год папрацаваўшы, бо першая спроба паступлення была няўдалай. Паслужыў у войску, вярнуўся — гістфак скончыў з «чырвоным» дыпломам. Па размеркаванні патрапіў у Акадэмію навук, Інстытут гісторыі.

***—Я ведаю, што вы — кандыдат гістарычных навук. Якую тэму даследавалі?***

— Германія пасля вайны, 1945–1947 гады. Дзейнасць савецкай ваеннай адміністрацыі ў Германіі. Палітыка саюзнікаў у Германіі пасля 1945 года.

***— Ого! Але ж гэтая тэма і цяпер небяспечная!***

— І цікавая. Я яе сам выбраў, мне пашанцавала, што ў аспірантуры маім кіраўніком быў акадэмік Ігнаценка з прынцыпам, які я потым перанёс на сваю працу з людзьмі: вольны пошук, тое, што падабаецца.

Я быў у сектары гісторыі сацыялістычных краін, Аляксандр Мацко яго ўзначальваў. І ён таксама не душыў свабодны палёт думак.

Я б не сказаў, што мая кандыдацкая праца напісана так, як бы я напісаў сёння. Але менавіта ад тэмы, думаю, я выйшаў на крытычнае ўспрыманне таго,

што адбывалася ў Савецкім Саюзе. З гэтай тэмай я прабіўся ў закрытыя архівы ў Маскве. Гэта з «допускам». У архіве я мусіў выпісваць патрэбнае ў свае асобныя сшыткі — прашытыя, пранумараваныя, праштампаваныя. Сшыткі перасылалі ў першы аддзел Акадэміі Навук, там я яшчэ раз мусіў рабіць выпіскі з іх. Выкарыстоўваць звесткі мог, даць канкрэтныя спасылкі на крыніцы, дзе знайшоў дакументы, — не. Дамогся, што дазволілі пазначаць агульнае: «Архіў савецкай ваеннай адміністрацыі».

У архівах я знайшоў таксама своеасаблівыя матэрыялы ТАСС пад грыфам НДП — «не для печати». Натрапіў на пераклады замежных навуковых даследаванняў гісторыі таталітарных рэжымаў — сталінскага і гітлераўскага, іх параўнальны аналіз. Груваcткія машынапісныя тамы, зробленыя ў адным экзэмпляры, для кіраўніцтва. Чытаў, закінуўшы сваю тэму.

Так што недарэмна таталітарныя рэжымы закрываюць архівы — дакументы правакуюць на роздум, сумневы, крытычны аналіз, у закрытых архівах нараджаецца свабода думкі.

Першы зрух — асэнсаванне неабходнасці ачышчэння ідэі сацыялізму ад сталінізму, вяртанне да першаснага — маральнага — сацыялізму «з чалавечым тварам». Затым ужо асэнсаванне самой канцэпцыі сацыялізму і бальшавізму на іх адпаведнасць рэальнасці. І шок асэнсавання, што менавіта з гэтай канцэпцыі пачынаўся рэжым, які атрымаў назву «таталітарны».

Так выйшла, што, калі адкрылася перспектыва свабоднага слова, я першым распавёў грамадзе пра беларусізацыю 1920-х гадоў. Напісаў два артыкулы, іх дала «Советская Белоруссия» — яшчэ орган ЦК Кампартыі. Мне расказвалі журналісты, што, калі прыйшоў артыкул, ды яшчэ са знакам «молнія», усе былі ўпэўненыя, што ЦК даслаў чарговую прапаганду. Чытаем — валасы заварушыліся: пад грыфам ЦК крамольны артыкул прыйшоў!

Перабудова прыадчыніла шлюзы. Для ЦК я падрыхтаваў аб'ёмныя даведкі па рэабілітацыю Усевалада Ігнатоўскага і Зміцера Жылуновіча, на ўсіх іншых рэпрэсаваных нацдэмаў. Праўда, потым іх не трэба было рэабілітаваць, жыццём былі рэабілітаваныя. Напісаў кніжку пра Ігнатоўскага — архітэктара беларусізацыі 1920-х гадоў.

Сёння я б перапісаў і сваю манаграфію пра рэвалюцыю 1905 года ў Беларусі, перапісаў бы шэраг артыкулаў, дысертацыю, бо на той час не меў магчымасці атрымаць усебаковую інфармацыю. Я разумею зараз, наколькі цяжка быць аб'ектыўным даследчыкам, калі ідзе лавіна ідэалагічнай апрацоўкі, прэпараванай інфармацыі, калі не проста асобныя блокі — цэлыя гістарычныя пласты вымаюцца, літаратура «працэджваецца», і ты не можаш праўрадца. Адчуваеш, што нешта не так, але доказаў не хапае, мазаіка не складваецца ў карціну!

А яшчэ таталітарны рэжым сябе лічыць вышэй за мараль, а на ўсіх астатніх распаўсюджвае мараль і рамантыку рэвалюцыі. Скрозь гэтую рамантыку мы ўспрымалі бальшавізм і савецкую ўладу як нешта справядлівае.

***— Спадар Аляксей, у вас шмат сяброў?***

— Сяброў звычайна няшмат... Самы блізкі сябра, Лявон Лойка, на жаль, сышоў ужо ў іншы свет. Яму было 60. Гэта быў сябра і па жыцці, і па справе, з ім мы рэалізоўвалі праект партыі, праект першай газеты. Мне яго вельмі не хапае.

Ёсць сябры ў рэдакцыі, ёсць у партыі, але Лявона не хапае.

***— А з жанчынамі вам шанцавала?***

— Шанцавала: з дзяцінства мяне атачалі разумныя і прыгожыя дзяўчынкі і жанчыны. А па жыцці жанчына ў мяне адна, маці маіх дзяцей. Я быў яшчэ студэнтам трэцяга курса, сакратаром камітэта камсамола факультэта, калі мы пабраліся шлюбам. Асалода майго жыцця, найлепшы мой прадукт — мае дзеці. І, да слова, мае сябры. Поўнае ўзаемнае разуменне, павага. Свае лёсы яны зрабілі самі, і дастаткова ўдала. Гэта цешыць.

***— Асабістыя сувязі з «партыйнай дыяспарай» у вас захаваліся?***

— Я ўжо непартыйны чалавек. Для журналіста гэта лепш, асабліва ў нашай сённяшняй сітуацыі пад аўтарытарным рэжымам.

З сацыял-дэмакратычнай партыі я выйшаў пасля таго, як падчас турэмнай адсідкі Казуліна верх у партыйных структурах узялі сілы, што вырашылі зняць яго са старшыні партыі. Старшынёй тады стаў Ляўковіч. Такое рашэнне ў дачыненні да Казуліна, які знаходзіўся ў зняволенні, я палічыў амаральным. Можна было пераабіраць лідара — тое нармальная рэч, але не калі ён у турме ды трымае галадоўку пратэсту.

Такія пeратурбацыі-здрады — на руку аўтарытарнаму рэжыму. Аўтарытарныя рэжымы заўсёды выкарыстоўваюць чалавечыя амбіцыі, слабасці структур, каб паскараць працэс маргіналізацыі сваіх апанентаў. Працэс заканамерны пад ударамі рэпрэсій. Магчыма, сацыял-дэмакраты першымі прайшлі гэты шлях, але сёння мы бачым падобнае і ў дачыненні да іншых апазіцыйных структур — іх дзейнасць абмежаваная, супярэчлівая, аўтарытэт у грамадстве досыць нізкі.

***— У супольнасці недзяржаўных журналістаў усё нібыта больш скаардынавана і салідарна, хоць таксама ўсялякае здараецца. Як вам, чалавеку з вядомай палітычнай біяграфіяй, у ролі газетчыка? Былыя партыйныя «разборкі» размовам з палітыкамі не перашкаджаюць? Прэс-братэрства прыняло за свайго?***

— Адносіны з палітыкамі нармальныя. Прынцып журналіста — не сварыся з тымі, у каго ты будзеш браць інтэрв'ю. Гэта першае.

Па-другое, у сваёй мінулай палітычнай дзейнасці я не перайшоў мяжы паміж спрэчкай прынцыповай і знявагай асабістай. Скажам, у мяне ў свой час у межах сацыял-дэмакратычнага руху былі дастаткова складаныя адносіны з Міколам Статкевічам. Але незадоўга да тых выбараў, пасля якіх яго кінулі за краты, мы цудоўна сустракаліся і размаўлялі. І адзначылі — і ён, і я — што пры ўсіх нашых спрэчках мы нідзе публічна адзін пра аднаго не сказалі ніводнага абразлівага слова. Таму ў нас не было перашкод, каб зноў сустракацца, а мне браць інтэрв'ю і пісаць пра яго дзеянні, яго партыю.

У газеце мы правялі серыю сустрэч з палітыкамі розных накірункаў. Нават тых, між якімі ёсць спрэчкі, мы сабралі за круглым сталом, далі ў публікацыях іх ацэнкі сітуацыі, іх бачанне шляхоў вырашэння праблем. На жаль, ні мы, ні іншыя журналісты не змаглі паспрыяць, каб нашыя апазіцыйныя палітыкі да гэтых восеньскіх прэзідэнцкіх выбараў вызначыліся з адзіным кандыдатам. Адзінства не атрымалася.

Што тычыцца журналісцкага асяродку, то я пагаджаюся з вамі, гэта сапраўды больш салідарная супольнасць. Бачу дзве прычыны. Першая: мы зразумелі, што, калі ідзе ціск, то, толькі падтрымліваючы адзін аднаго, мы можам утрымаць выспу свабоднага слова. Наш прыклад — і «Згоды», і «Новага Часу» — гэта пацвярджае.

Па-другое, усё ж кожнае выданне дастаткова аўтаномнае. Мы не супернікі адзін аднаму, нам не трэба вылучаць адзінага кандыдата. Мы салідарныя ў сваіх дзеяннях праз свае публікацыі, але нам не трэба ўзгадняць кожны свой прафесійны крок, як гэта трэба ўзгадняць у партыі. Кожная газета ідзе сваім шляхам, але ў адным накірунку, сфармуляваным прафесійнымі прынцыпамі: аб'ектыўнасць, дэмакратычнасць, свабода выказвання.

Так, нам трэба трымацца адзін аднаго і не даваць нас душыць. Гэта магчыма. Ідэал таталітарнага рэжыму — адсутнасць любой незалежнай прэсы, любога выдання. Пакуль улады не могуць дасягнуць такога «ідэалу» — і ў журналісцкім асяроддзі супрацьць, і апазіцыя ўсё ж утрымала выспу свабоднага слова. Гэта наша агульная заслуга.

***— Пра палітычную кар'еру не шкадуеце?***

— У свае 70 гадоў, ацэньваючы пражытае жыццё, я толькі шкадую, што нам не ўдалося сцвердзіць і рэалізаваць у пераможным варыянце ідэю дэмакратызацыі Беларусі. Гэтая ідэя досыць шырока панавала ў грамадстве пасля абвяшчэння суверэнітэту Беларусі. Пра прычыны паразы спрэчка ідзе да гэтага часу: чаму не змаглі, а ці была рэальная альтэрнатыва?..

Я лічу, што была, што мы шанец страцілі. Мы недаўцэнілі, не асэнсавалі, як мабілізаваць рэсурсы гэтай альтэрнатывы. І, дарэчы, да гэтага часу, усё гэтае 20-годдзе пасля паразы, сітуацыя не прааналізаваная. Ні палітычнай апазіцыяй, ні аналітыкамі.

А тое, чаго не зрабілі, мы пакінулі сваім дзецям — яны мусяць дарабляць. І за гэта я адчуваю сваю віну. Хаця дачка супакойвае: «Вы зрабілі, што маглі, пры ўсіх хібах, вы заклалі аснову для новай, пераможнай, спробы дэмакратычных рэформ».

***— Мяне вельмі ўразіў ваш карэспандэнт Зміцер Галко, які паматляўся па Украіне, напісаў шэраг выбітных матэрыялаў. Вы вельмі хваляваліся за яго?***

— Хваляваліся і хвалюемся. Гэта яго выбар, яго рашэнне — пасылаць на фронт і на рызыку я не меў права. Але ён так вырашыў. Мы, наколькі маглі, дапамаглі яму. Спачатку гэта быў Майдан. А потым — гарачыя маршруты вайны. Ягоныя рэпартажы і нарысы вельмі таленавітыя і шчырыя. Я параўнаў іх з іспанскімі рэпартажамі Хемінгуэя, Экзюперы. Гэта той жа ўзровень асэнсавання, той жа антываенны пасыл — ён не пафасны, ён пержыты, паказаны праз перажыванні герояў.

Гэта ўдача выдання, у якога ёсць такі рэпарцёр. Але я хачу ўсё ж, каб такіх нагодаў для выяўлення таленту журналістаў было менш.

***— Вы далі Змітру высокую ацэнку, чытачы высока ацанілі... «Зорнай хваробай» не захварэў? Калектыў не пахіснуўся з-за таго, што ў аднаго атрымалася значна лепш, чым у гэты час у іншых?***

— Не, зорнасці ці рэўнасці не адчулася. Ён вярнуўся і зноў з'ехаў, сёння ён пад Марыупалем.

Рэдактару з такімі рэпарцёрамі дастаткова складана, прызнаюся, працаваць: патрэба ў газеце можа быць адна, а ў яго іншая. Трэба прыстасоўвацца. Такія парывы не спыніш, усё роўна зробіць так, як задумаў, таму лепш знайсці кампраміс.

У рэдакцыі ўсе людзі розныя, але ўсе ўсё правільна разумеюць і спакойна ставяцца да «асаблівага графіка» Змітра. Ён выбраў тэму Украіны, іншы выбраў іншую тэму — і ў сваіх сюжэтах не менш здатны.

***— Вы так добра гаворыце пра кожнага з сваіх супрацоўнікаў — і кожны таленавіты, і кожны варты павагі... А вас па жыцці шмат хвалілі?***

— Я не магу ўспомніць, каб мяне вельмі за нешта лаялі... Хваліць — хвалілі. У школе па літаратуры і па гісторыі хвалілі, па матэматыцы — не. Армію я прыняў як неабходнасць. Угаворвалі паступіць у ваенную вучэльню яшчэ да прызыву, потым у войску ўгаворвалі, але я цвёрда ведаў, што загады і я ў форме — гэта не сумяшчальна.

***— З арміі прыйшлі сяржантам?***

— Нават лейтэнантам. Служыў у Групе савецкіх войскаў у Германіі, з 1964 па 1967 год, тры гады.

Такая была завядзёнка ў Групе савецкіх войск у Германіі, што хлопцаў з адукацыяй у 10 класаў адмыслова вучылі два месяцы на трэцім годзе службы — і давалі малодшага лейтэнанта пад дэмбель.

Служыў на самых сучасных у тую пару танках Т-62, пасля аб'яднання Германіі глядзеў па тэлевізары, як гэтыя танкі калонамі і эшалонамі выводзілі ў СССР, на пераплаўку — занадта вялікая колькасць іх была ў краінах сацлагеру.

...Але маю грэх — я «штурмавік». Я ў апошні момант пісаў дысертацыю, у апошні момант, перад самым дэдлайнам пішу свае артыкулы... За гэта атрымліваў па шыі, але прадукт заўсёды атрымліваў нармальны.

***— А ўзнагароды ў журналістыцы маеце?***

— Так. Міжнародную прэмію імя Найта — названая ў гонар амерыканскага журналіста — я атрымаў у 2008 годзе, гэта асабістая прэмія. А газета наша атрымала прэмію Цайта ў 2009 годзе. Асаблівасць нашай беларускай незалежнай журналістыкі — значныя міжнародныя ўзнагароды мы атрымліваем за супрацьў ціску, пераследу, так бы мовіць, за якасную журналістыку ў складаных умовах.

Хацелася б, каб хутчэй усталявалася такая сітуацыя ў Беларусі, каб было спаборніцтва талентаў, і прэміі прызначалі за якасную журналістыку ў нармальных умовах.

Самае выбітнае, самае яркае, што выпала на мае жыццё, — гэта свабода самарэалізацыі і спроба палітычнай дэмакратызацыі Беларусі. Я лічу, што гэта за шчасце, што мне гісторыя падкінула шанец вырвацца за рамкі таталітарнага рэжыму. Гэтая асалода расправіць плечы, гаварыць і пісаць тое, што думаеш. Да 1994 года — наогул свабодна, а пасля аднаўлення ў Беларусі аўтарытарнага рэжыму — у супраціве яму, у незалежным выданні, у вольным «Новым Часе». Гэта асалода свабоднага слова! Я яе фізічна адчуваю.



**Аляксей Кароль з жонкай Вольгай Мікалаеўнай, дачкой Ірынай і сынам Сяргеем**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Хрушчову дапамагаў медыум?

Роўна 65 гадоў таму, 7 верасня 1953 года, Мікіта Хрушчоў стаў першым сакратаром ЦК КПСС. Вынікам яго прыходу ва ўладу стаў перагляд ролі Сталіна. Пры гэтым змагацца з культам асобы Хрушчову, як нечакана высветлілася, дапамагаў медыум — асоба, што з'яўляецца сувязным звяном паміж матэрыяльным і духоўным светамі. У ролі хрушчоўскага медыума выступіла ветэран партыі Дора Абрамаўна Лазуркіна. Падчас пленуму КПСС яна заявіла, што да яе напярэдадні з'явіўся сам Ленін. «Таварышы! Учора я раілася з Ільічом, быццам бы ён перада мной як жывы стаяў. Ён сказаў: «Мне непрыемна быць побач са Сталіным, які столькі гора прынёс партыі». Прысутныя сустрэлі заяву Лазуркінай апладысментамі і тут жа прагаласавалі за вынас цела Сталіна з маўзалею. Як высвятляецца, магчыма, словы выступоўцы мелі падставы. Дора Лазуркіна правяла 18 гадоў у турмах НКУС, дзе захварэла на псіхічны разлад і пакутавала ад начных кашмараў. Наогул, яна валодала абвостраным пачуццём справядлівасці, выказваючы пазней нязгоду з прысваеннем Брэжневу звання героя СССР. З гэтай прычыны Лазуркіну перасталі запрашаць на партыйныя мерапрыемствы. Яе смерць у 1974 годзе ў савецкіх медыя практычна не асвятлялася.

**Паводле расійскай прэсы**

### ІТАЛІЯ. Сепаратысты супраць сепаратыстаў

У Еўропе новая гарачая кропка — італьянскі рэгіён Паўднёвы Ціроль. Увогуле, гэты край, дзе большасць складаюць нямецкамоўныя, стаў італьянскім па выніках Першай сусветнай вайны. Мясцовыя жыхары доўгі час патрабавалі вярнуць іх у склад Аўстрыі, аднак у выніку абмежаваліся шырокай аўтаноміяй. Доўгі час такая сітуацыя цалкам задавальняла Рым і Вену. Аднак у мінулым годзе да ўлады ў Аўстрыі прыйшла правая кааліцыя. З яе ініцыятывы ў праграме ўраду з'явілася абяцанне — раздаць жыхарам Паўднёвага Ціролю аўстрыйскія пашпарты. Не супраць была і адміністрацыя рэгіёна. Нават Рым, пакуль там знаходзіўся левы кабінет, быў гатовы да перамоваў на гэты конт. Аднак цяпер у Рыме — новы ўрад папулістаў, які жорстка асудзіў ініцыятыву з пашпартамі. «Гэтая ініцыятыва з'яўляецца неадпаведнай з-за патэнцыйна разбуральнага эфекту», — заявіў 8 верасня італьянскі МЗС. У Рыме баяцца магчыма ўздыму сепаратызму. Самае цікавае, што вядучыя ролі ў італьянскім кабінеце граюць аматары стварэння асобнай дзяржавы на базе паўночных італьянскіх правінцый.

**Паводле нямецкай прэсы**

### МАЛДОВА. Збіў міністра — атрымай 7500 еўра

Вялікі ажыятаж у асяроддзі простых малдаван выклікала рашэнне Еўрапейскага суда па правах чалавека. 4 верасня суддзі пастанавілі, што ў Малдове мела месца парушэнне аднаго з пунктаў Еўрапейскай канвенцыі аб правах чалавека. Усё пачалося ўвесну 2014 года, калі пенсіянер Міхаіл Дагатар на людзях ударыў міністра працы Валянціну Булігу, патрабуючы перапічыць яму пенсію. Улады жорстка адпомсцілі пенсіянеру — завялі на яго крымінальную справу, а пазней даставілі ў псіхіятрычны шпіталь. Дагатар не здаўся, і ў 2015-м падаў скаргу ў Вярхоўны суд у Страсбургу, дзе з ім не толькі пагадзіліся, але нават распарадзіліся пакрыць заяўніку маральныя страты і выдаткі ў памеры прыкладна 7500 еўра. Перамога пенсіянера выклікала выбух энтузіязму ў малдоўскім грамадстве. Мясцовыя інтэрнэт-форумы мільгаюць каментарамі кшталту: «Нізкі паклон і апладысменты пенсіянеру. Гонар і правы трэба адстойваць». Праўда, каментатары прызнаюць, што грошы пенсіянеру выплацяць з бюджэту, які фармуецца за кошт падаткаплатнікаў.

**Паводле малдоўскай прэсы**

### ФІЛІПІНЫ. Пчала супраць Рональда Макдональда

Сусветная прэса піша пра тэктанічныя змены на глабальным рынку fast food. Jollibee (англ.: вясёлая пчала) — сетка хуткага харчавання, створаная на Філіпінах у 1970 годзе, імкліва пашырае геаграфію. Больш за 3000 рэстаранаў кампаніі Jollibee Foods ужо працуюць у 37 краінах свету. І гэта толькі пачатак. У планах дырэкцыі — адкрываць штогод 300 рэстаранаў за мяжой. У некаторых штатах ЗША філіпінцы ўсур'ёз пагражаюць пазіцыям такіх монстраў на рынку fast food, як McDonalds і Burger King. Прычым, кліентаў не бянтэжаць вялізныя чэргі, калі часам для атрымання замовы трэба чакаць больш за гадзіну. Днямі дырэктар кампаніі заявіў, што Jollibee здольная ў хуткім часе стаць вядучай кампаніяй у гэтым сегменце. Зрэшты, вынік бітвы паміж клоунам Рональдам і пчалой яшчэ незразумелы. Усё будзе вырашацца ў Кітаі, дзе кліентура кропак fast food ацэньваецца ў 600 мільёнаў чалавек. Лагічнае пытанне: што асаблівага ў тых філіпінскіх гамбургерах і бургерах? Гледзячы на меню Jollibee, ад звыклых нам бігмакаў філіпінскія бігмакі адрозніваюцца дадаваннем у іх ананасу і мёду.

**Паводле французскай прэсы**



Фота www.projectrepublictoday.com

# Самы антыамерыканскі фільм XXI стагоддзя

Алег НОВІКАЎ

**Ці можа адсутнасць у фільме нейкай сцэны падзяліць нацыю? Можа, калі гаворка пра ЗША. Фільм «Першы чалавек» адразу, як толькі з'явіўся, выклікаў за акіянам сапраўдную культурную вайну.**

Вельмі рэдка фільм, які яшчэ нават не выйшаў у пракат, ператвараецца ў прадмет агульнанацыянальных дэбатаў, у тым ліку палітычных. Біяграфічнай драме «Першы чалавек» («First Man», або «Чалавек на Месяцы» ў расійскім кінапракаце), якую зняў рэжысёр Дэмьен Шазел, у гэтым плане пашанцавала. Карціну гледачы, па сутнасці, бачылі толькі адзін раз — 30 жніўня на фестывалі ў Венецыі. Аднак гэтага хапіла, каб уся краіна перасварылася наконт ацэнак стужкі.

Кінадрама прысвечана гісторыі жыцця Ніла Армстранга, камандзіра экіпажу амерыканцаў, якія адправіліся на Месяц у 1969 годзе. Месячны дэсант «Apollo-11» даўно ператварыўся ў міф. І, на першы погляд, стужка ў чарговы раз пераказвае агульнавядомую гісторыю — толькі праз асабісты вопыт астранаўта.

Аднак уважлівыя амерыканскія патрыёты выявілі адыход ад канона. Прычына абурэння выглядае трошкі дзіўнай. На экране можна пабачыць амерыканскі сцяг на Месяцы. Аднак няма непасрэднай сцэны, дзе астранаўты ўстанаўліваюць зорна-паласаты штандар на месячным грунце.

Адсутнасць гэтага эпізоду і зачапіла патрыётаў, якія абвясцілі фільму сапраўдную вайну. На кансерватыўных пабліках фільму даюць максімальна негатыўную ацэнку: «дурная і нецікавая фальсіфікацыя гісторыі», «самы антыамерыканскі фільм у XXI стагоддзі», «стужка для ідыётаў», «пародыя на Амерыку, прыдуманая ў Галівудзе».

Ускосным чыннікам для антыпатыі на адрас карціны стала дзяржаўная прыналежнасць галоўнага акцёра. Раян Гослінг — грамадзянін Канады. Між тым, адносіны паміж Атавай і Вашынгтонам зараз — напэўна, самыя горшыя з тых часоў, калі Канада, будучы калоніяй Брытаніі, падтрымлівала апошнюю ў вайне са Злучанымі Штатамі. Акрамя таго, акцёр мае дастаткова ліберальныя погляды. У нейкім інтэрв'ю ён заявіў, што гісторыю яго персанажа трэба разглядаць як учынак, які знаходзіцца «па-за дзяржаўнымі межамі». Ён таксама дадаў: «Я не думаю, што Ніл разглядаў сябе ў якасці амерыканскага героя».

Падлілі алею ў агонь і паплечнікі Армстранга па экспедыцыі. Раскрытыкаваў карціну Баз Олдрын, адзін з астранаўтаў «Apollo-11». Ён ледзь не адкрытым тэкстам напісаў, што фільм замоўлены ліберальнымі апанентамі Трампа.

Адразу ў спрэчку наконт фільма актыўна палез палітыкум. Рэспубліканец Марка Рубіё, які балатаваўся ў прэзідэнты ў 2016-м, лічыць стваральнікаў стужкі «лунацікамі». «Амерыканскі народ заплаціў за гэтую місію: амерыканскія астранаўты ляцелі на ракетах, пабудаваных амерыканцамі, зробленымі па амерыканскіх тэхналогіях. Гэта не была місія ААН», — абураецца Рубіё.

**Дзеці Армстранга абараняюць стваральнікаў стужкі: «Гэтая гісторыя з'яўляецца ўніверсальнай. Вядома, што гэта вялікае дасягненне Амерыкі. Але яно таксама азначае дасягненне для ўсяго чалавецтва»**

Ну і як жа без Трампа? Амерыканскі прэзідэнт у Twitter фактычна заклікаў да байкоту фільма ў пракаце. Кіраўнік ЗША напісаў: «Гэта сумна. Амаль гэтак жа, як быццам яны (стваральнікі карціны) збянтэжаныя дасягненнем Амерыкі. Я думаю, што гэта жудасна. Як можна распавядаць пра Ніла Армстранга і пра экспедыцыю на Месяц, не ўзгадаўшы пра амерыканскі сцяг? Па гэтай прычыне я нават не захачу глядзець фільм».

Што тычыцца аўтара стужкі, то ён кажа, што тэма сцяга не была для стваральнікаў «Першага чалавека» найбольш прыярытэтнай. Па словах рэжысёра стужкі, «адказ на пытанне, ці ўтрымлівае фільм палітычны меседж, хутчэй, адмоўны. Мая мэта заключалася ў тым, каб падзяліцца з гледачом невядомымі аспектамі амерыканскага палёту на Месяц. Акрамя таго, фільм — гэта асабістая сага Ніла Армстранга пра тое, што ён думаў і адчуваў у тыя некалькі гадзінаў».

Дарэчы, дзеці Армстранга абараняюць стваральнікаў стужкі. «Гэтая гісторыя з'яўляецца ўніверсальнай. Вядома, што гэта вялікае дасягненне Амерыкі. Але яно таксама азначае дасягненне для ўсяго чалавецтва», — кажа адзін з сыноў Армстранга. Спадабаўся фільм і кінакрытыкам. «Першы чалавек» ужо з'явіўся ў шорт-лісце фільмаў, якія могуць быць намінаваныя на «Оскар». Тым не менш, застаецца спадзявацца, што выхад стужкі на вялікі экран (ён запланаваны на кастрычнік) абыдзецца без праяў гвалту.

І, натуральна, трэба ўзгадаць пра аматараў вельмі папулярнай канспіралагічнай тэорыі «Месячная змова», паводле якой ніякага палёту «Apollo-11» не было. Сцэну з высадкай астранаўтаў на месяц, мауляў, проста здымалі ў нейкім сакрэтным ангары ЦРУ. «Першы чалавек» згуляў з прыхільнікамі згаданай тэорыі злы жарт. Па сутнасці, крытыкі карціны прыдумалі не менш захапляльную, чым «Месячная змова», канспіралагічную версію пра тое, што нейкі цэнтр свядома замовіў кіношнікам адсутнасць сцэны са сцягам.

# Не пройдуць!

Алег НОВІКАЎ

**Грузінскія ўлады пачалі затрыманні ўльтраправых радыкалаў. Аднак не выключана, што скандал закране і больш салідных палітыкаў.**



Фота www.blog.sololaki.ru



Фота www.inosmi.ru

У Грузіі існуе невялікая субкультура, прадстаўленая такімі групоўкамі, як «Грузінскі марш», «Нацыянальнае адзінства Грузіі», «Нацыянальныя» і гэтак далей. І хаця іх палітычная праграма дастаткова размытая, на акцыях гучаць пераважна ксенафобскія, гамафобныя і расісцкія заявы і заклікі.

1 верасня праваахоўнікі затрымалі 32-гадовага Георгія Чэлідзэ — лідара руху «Нацыянальнае адзінства Грузіі». 4 верасня тбіліскі гарадскі суд адправіў Чэлідзэ ў папярэдняе зняволенне і адмовіў боку абароны ў патрабаванні выпусціць яго пад заклад у 1000 лары. Следства вядзецца паводле артыкулу Крымінальнага кодэкса Грузіі, які забараняе незаконнае захоўванне агнястрэльнай зброі. У выпадку доказу віны лідару ўльтраправых пагражае ад 3 да 6 гадоў пазбаўлення волі.

Уласна кажучы, Чэлідзэ сам дапамог уладам адправіць яго за краты. Лідара «Нацыянальнага адзінства Грузіі» затрымалі пасля таго, як той выклаў у Facebook два відэа пад назвай «Фашысцкая нядзеля». На адным з іх было паказана, як сябры руху ўмоўна вядуць зачыстку будынкаў, а на другім — дэманструюць асновы стральбы з аўтамата. Прыператрусе жылога дома Чэлідзэ канфіскавалі рознага кшталту агнястрэльную зброю, а таксама патроны.

Пакуль юрысты рыхтуюцца да папярэдняга судовага слухання, якое прызначана на 17 кастрычніка, палітолагі спрабуюць зразумець логіку ўлады. Праблема ў тым, што Чэлідзэ можна было і раней прыцягнуць да адказнасці, напрыклад, за прапаганду нацызму. Асабліва не хавалі правыя радыкалы і мілітарысцкага складніку свайго праекту. Чэлідзэ, у прыватнасці, неяк выхваляўся: «У большасці сяброў арганізацыі ёсць зброя: паляўнічыя стрэльбы, «Вінчэсцер», пісталеты, паўаўтаматычныя стрэльбы».

Можна меркаваць, што Чэлідзэ вырашылі ізаляваць з-за гучнага рэзанансу ў Еўропе пасля акцыі нацы ў цэнтры Тбілісі. 21 мая Чэлідзэ і яго аднапартыйцы прайшліся з фашысцкім салютам па праспекце Руставелі, пратэстуючы супраць правядзення акцыі абаронцаў правоў ЛГБТ. На падзею адрэагавалі многія еўрапейскія аўтарытэтныя СМІ.

Тым больш, што тэма правоў сексуальных меншасцяў у Грузіі сёння зноў выклікае жарсці з-за Гурама Кашыя — гульца зборнай Грузіі па футболе, які адначасова выступае за нідэрландскі клуб. Неяк Кашыя ў якасці жэсту падтрымкі ЛГБТ выйшаў на поле з вясёлкавай стужкай.

**Варта згадаць расследаванне арганізацыі «Міжнародная празрыстасць — Грузія». Паводле яго, асобныя лідары грузінскіх правых звязаныя з расійскімі дзяржаўнымі арганізацыямі, такімі, як «Фонд Гарчакова» пры МЗС Расіі і іншымі**

Кансерватыўныя суайчыннікі такога не зразумелі, паставіўшы спартсмену ўльтыматум: альбо прабачэнне за стужку, альбо сыход са зборнай. Цяпер кожны матч зборнай Грузіі ператвараецца ў скандал.

Трапілі пад руку і беларусы. Правыя ўварваліся на нядаўні таварыскі матч паміж Грузіяй і Беларуссю ў Кутаісі, спалілі сцяг ЛГБТ і абазвалі Кашыя нецэнзурнымі словамі. Апошні раз бойка з-за гэтай тэмы здарылася 10 верасня на стадыёне ў Тбілісі.

Зрэшты, тэмай ЛГБТ спіс версій пра прычыны арышту Чэлідзэ не абмяжоўваецца. Некаторыя грузінскія палітолагі лічаць, што зачыстка фашыстаў — гэта пасланне праваслаўнай царкве, дзе шмат хто незадаволены апошнімі рэформамі: дазволамі акцый ЛГБТ і легалізацыяй марыхуаны. Падазраюць, што радыкальныя групоўкі падтрымліваюцца грузінскай патрыярхіяй.

Справа Чэлідзэ выглядае яшчэ больш цікавай праз прызму версіі мясцовых лібералаў. Апошнія даўно намякалі на сувязь экстрэмістаў і кіруючай партыі «Грузінская мара». Партыі патрэбна была нейкая аўтаномная ад улады сіла, здольная фізічна ціснуць на апанентаў. І сапраўды, ахвярамі многіх вылазак правых ультра шмат разоў былі крытыкі рэжыму. Калі праварадыкалы траплялі за краты, іх часта вызвалялі па просьбе дэпутатаў ад «Грузінскай мары».

Акрамя таго, за кошт актыўнасці ўльтраправых улады атрымлівалі магчымасць выступіць у ролі прымірыцеля. Напрыклад, вясной пратэсты грузінскага грамадства выклікалі зачысткі сілавікамі начных клубаў. Справа дайшла да масавых маніфестацый у цэнтры сталіцы. Але тут жа, як чорцік з каробкі, узнікалі праварадыкалы Чэлідзэ, каб разабрацца з маніфестантамі, якіх назвалі наркаманамі. Раскручванне спіралі гвалту, здавалася б, не пазбегнуць. Але на сцэну выйшла паліцыя і развяла бакі — да радасці абывацеляў, якіх тэма паліцэйскага гвалту ў клубах ужо перастала цікавіць.

І, нарэшце, варта згадаць вынікі расследавання арганізацыі «Міжнародная празрыстасць — Грузія». Яго аўтары сцвярджаюць, што асобныя лідары грузінскіх правых звязаныя з расійскімі дзяржаўнымі арганізацыямі. У дакладзе згадваюцца такія ўстановы, як «Інстытут міжнародных адносін», «Фонд падтрымкі публічнай дыпламатыі імя Гарчакова», «Фонд Гарчакова» пры Міністэрстве замежных спраў Расійскай Федэрацыі.

Калі версіі пра кантакты Чэлідзэ з апаратчыкамі «Грузінскай мары» або Крамлём маюць падставы, то кастрычніцкі працэс над ім можа абярнуцца вялікім скандалам.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Аяна Прэслі



Дэпутатка гарсавету Бостана, сябра левай фракцыі Дэмакратычнай партыі ЗША, працягнула трэнд, які заклала іншы маргінальны палітык — Аляксандра Акасіа-Картэс. Тая ў чэрвені сенсацыйна перамагла на нью-ёркскіх праймерыз кандыдата ад дэмакратаў на лістападаўскіх выбарах у Кангрэс.

Што тычыцца Прэслі, то яна прыйшла першай на праймерыз дэмакратаў на адным з участкаў у штаце Масачусетс. Прычым, як і ў Нью-Ёрку, яна перамагла прадстаўніка партыйнага істэблішменту. Яе супернік 10 гадоў запар абіраўся па гэтым участку.

Тое, што Прэслі перамагала з салідным адрывам (59% супраць 41% галасоў), ілюструе запыт у амерыканскім ліберальным лагеры на свежыя і радыкальныя фігуры. У гэтым плане ветэранам Дэмпартыі, накшталт Барака Абамы або Хілары Клінтан, будзе цяжка выйграць намінацыю на кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 2020-га. Цікавая перамога Прэслі і ў тым кантэксце, што яна можа быць першай афраамерыканкай, абранай ад Масачусетса ў парламент.

Што тычыцца выбарчай праграмы, то кандыдат-дэмакрат у выпадку перамогі абяцае перш за ўсё заняцца імпічментам Трампу. Дзейсны прэзідэнт ЗША з яго агрэсіўнай сексісцкай рыторыкай, як маркуе Прэслі, прыніжае кожную амерыканскую жанчыну.

### Аляксандр Януковіч



Ходзяць чуткі, што сын збеглага экс-прэзідэнта, якому ў народзе далі мянушку «Стаматолаг», спрабуе рэалізаваць ва Украіне сцэнар рэваншу з дапамогай новай палітычнай партыі, якую ён, нібыта, збіраецца ўзначаліць.

Партыя, калі верыць прэсе, называецца «Украіна за мір». Сапраўды, у інтэрнэце ёсць адпаведная старонка, якая заклікае ўкраінцаў падтрымаць праект. Праўда, імя Аляксандра Януковіча ў спісе кіраўнікоў структуры не фігуруе. Не кажучы пра тое, што ва Украіне прасцей не рэгістраваць новую партыю, а купіць зарэгістраваную структуру.

Трэба таксама адзначыць, што пра вяртанне Януковіча-юніёра ва ўкраінскую палітыку ўпершыню напісала інтэрнэт-выданне, якое, у сваю чаргу, выкарыстоўвае неафіцыйную крыніцу. У любым выпадку, прадстаўнікі клана Януковіча наўрад ці будуць адкрыта ўдзельнічаць у выбарах 2019 года.

У сеціве вельмі негатыўна ўспрынялі магчымасць вяртання «Янукаў» да ўлады. «Краў, абакраў Украіну, здаў Украіну, збег, а цяпер змагар за мір! Злодзей і бандыт падаўся ў барацьбіты за мір!» — пішуць у каментарах.

Аднак спісваць сям'ю Януковіча з рахункаў таксама нельга. Эканамічная сітуацыя ва Украіне горшая, чым была ў часы Януковіча, што нараджае сярод часткі насельніцтва настальгію па мінулых часах.

### Педра Санчас



Напярэдадні 11 верасня, калі каталонцы святкуюць Daida, або Дзень Каталоніі, прэм'ер Іспаніі і лідар сацыялістаў зрабіў ім цікавы падарунак. Мадрыд вырашыў на працягу восені вырашыць каталонскае пытанне.

Ужо вядома, што рэгіёну, які даўно патрабуе незалежнасці, прапануюць рэферэндум. Праўда, пытанне суверэнітэту на яго выносіцца не будзе. Санчас збіраецца замірыцца з каталонцамі за кошт новага Статуту аб аўтаноміі. Гледзячы па ўсім, Каталоніі прапануюць стаць краем, асацыяваным з іспанскім каралеўствам.

Што тычыцца афіцыйнай Барселоны, то там прапанову Санчаса ўспрынялі вельмі холадна. Каментуючы крок Санчаса, прэм'ер ураду аўтаноміі ў чарговы раз запатрабаваў рэферэндум пра незалежнасць накшталт таго, што адбыўся ў 2014 годзе ў Шатландыі.

Дарэчы, падтрымлівае такі сцэнар і частка каталонцаў, што выступае за захаванне статус-кво. На іх думку, плебісцыт, на якім перамога нацыяналістам не гарантаваная, можа паставіць канчатковую кропку ў цяперашнім канфлікце. Варта таксама дадаць, што ўрад сацыялістаў не мае дэпутацкай большасці ў Картэсах. Як вынік, ініцыятыва Санчаса наконт пашырэння аўтаноміі Каталоніі можа не знайсці падтрымкі ў парламенце.



Жаўнеры КАП

**25 верасня нямецкі контрадмірал Хуберт Шмунд загадаў расстраляць польскія пазіцыі прамой наводкай. Аднак пампежнікі з Палесся не толькі вытрымалі, але і адказалі гарматным агнём**

# Абараніць Хэль



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Сярод абаронцаў польскага паўвострава ў верасні 1939 года былі пампежнікі з Заходняй Беларусі.**

Падчас прыхаванай і ўсеагульнай мабілізацыі 1939 года значная частка польскіх войскаў з тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай была перадыслакаваная на Захад. Сярод іншых тэрыторыю Заходняй Беларусі пакінулі і падраздзяленні батальёна Корпуса аховы памежжа «Сінкевічы», якія ў міжваенны час ахоўвалі мяжу з БССР. Польскіх пампежнікаў накіравалі на балтыйскае ўзбярэжжа.

## Пампежнікі з беларускага Палесся

Гісторыя гэтага вайсковага злучэння пачынаецца ў 1925 годзе, калі ў складзе КАП быў сфарміраваны 16-ты памежны батальён. Папаўненне для новай часткі бралі з 84-га палескага палка з Пінска. Штаб памежнай часткі знаходзіўся ў вёсцы Сінкевічы, на Лунінеччыне.

Пазней, у 1929 годзе, гэты батальён атрымаў назву мясцовасці, у якой знаходзіўся. Яго жаўнеры ахоўвалі ўчастак польска-савецкай мяжы на тэрыторыі Палескага ваяводства Другой Рэчы Паспалітай працягласцю ў 87 кіламетраў. У міжваенны час пампежнікі батальёна мелі на ўзбраенні 838 вінтовак «Маўзер», 49 ручных кулямётаў «Бергман» і 8 станковых «Максімаў». У сярэдзіне 1930-х гадоў гэта вайсковае падраздзяленне складалася са штаба, узвода сувязі, кулямётнай роты, тылавой роты і трох памежных ротаў. У 1937 годзе батальён стаў адміністратыўнай часткай брыгады КАП «Палессе».

Увесну 1939 года стала зразумела, што, хутчэй за ўсё, ваяваць Польшчы давядзецца з суседам на Захадзе. У сувязі з гэтым пачалася мабілізацыя найбольш баяздольных падраздзяленняў польскага Корпуса аховы памежжа і перадыслакацыя іх у цэнтральныя і заходнія раёны Польшчы. Мабілізацыя закранула і батальён «Сінкевічы». Яго тылавая і кулямётная роты былі накіраваны на Хэльскі паўвостраў, дзе пачаў фарміравацца батальён КАП «Хэль», які павінен быў заняць абарону ва ўмацаваным раёне.

## На Балтыцы

Акрамя пампежнікаў з Заходняй Беларусі ў склад новай часткі на Хэле ўвайшлі і «капісты» з памежнага палка «Сарны», які да гэтага моманту ахоўваў польска-савецкую мяжу ў Заходняй Украіне. Камандзірам батальёна «Хэль» стаў маёр Ян Вішнеўскі. Раней гэты афіцэр стаяў на чале батальёна КАП «Давыд-Гарадок».

Пампежнікі з Усходу пачалі рыхтаваць абарончыя пазіцыі. Частка жаўнераў новага падраздзялення занялі пазіцыі ў раёне порта Ястарня, іншыя ўзмацніліся ля вілы «Рыўера». Штаб батальёна размясціўся на чыгуначнай станцыі Хэль. Падчас знаходжання на Балтыцы ў шэрагі пампежнікаў улілося некалькі ротаў рэзервістаў. «Капісты» занялі чатыры ДАКі ў перадполлі Ястарні. На беразе рабіліся пазіцыі, узмоцненыя кулямётамі.

**Пампежнікі КАП, якія яшчэ за год да гэтага ахоўвалі польска-савецкую мяжу, змагаліся да апошняга і капітулявалі толькі тады, калі ўжо амаль уся тэрыторыя Другой Рэчы Паспалітай была акупавана нямецкімі і савецкімі войскамі**

Пачатак вайны амаль не крануў абаронцаў Хэля. Толькі ў другой дэкадзе верасня 1939 года нацысты ўсталі перад праблемай знішчэння польскай абароны на паўвостраве. Нямецкае камандаванне планавала з дапамогай авіяцыі і ВМФ ліквідаваць польскую берагавую батарэю і стварыць магчымасць для арганізацыі дэсанту. Пасля знішчэння польскіх агнявых пазіцый нямецкія марпехі і пяхота павінны былі давяршыць разгром польскіх сілаў.

21 верасня 1939 года паўвостраў пачалі абстрэльваць з Гданьскай бухты нямецкія крэйсеры «Шлезвіг-Гальштэйн» і «Сілезія». У гэты час Люфтвафэ разбамбіла вёску Кузніца, якая знаходзілася ў тым раёне. Для цывільнага насельніцтва пачалося сапраўднае пекла на зямлі. Шмат хто не вытрымаў і вывесіў на сваіх хатах белыя сцягі. А вось гарнізон Хэля працягваў трымаць пазіцыі. У сувязі з гэтым 25 верасня 1939 года нямецкі контрадмірал Хуберт Шмунд загадаў караблям падысці шчыльна да паўвострава і расстраляць польскія пазіцыі прамой наводкай. Аднак пампежнікі з Палесся не толькі вытрымалі, але і адказалі агнём са сваіх гармат. Выбухі на нямецкіх караблях натхнялі абаронцаў. Аднак сітуацыя была цяжкай. Не хапала правіянту, амуніцыі. Вялікай праблемай была дэмаралізацыя мясцовага насельніцтва, частка якога патрабавала ад польскіх вайскоўцаў спыніць баявыя дзеянні.

28 верасня 1939 года была праведзеная нарада камандзіраў польскага гарнізона, на якой адбылася жорсткая дыскусія. Частка афіцэраў адзначала, што далейшая абарона бесперспектыўная. Аднак камандзіры памежнага батальёна выступалі за працяг барацьбы. Урэшце польскія абаронцы вырашылі біцца да апошняга. Уся пяхота хэльскага гарнізона была падпарадкаваная камандзіру батальёна КАП «Хэль» Яну Вісьнеўскаму.

Тым часам немцы пачалі наземную аперацыю. На польскіх абаронцаў наступалі часткі 374-га пяхотнага палка, а таксама артылерыйскія падраздзяленні 207-й пяхотнай дывізіі. 29 верасня нацысты занялі плацдарм ля Вялікай вёскі. Пры гэтым немцы размініравалі Пуцкую затоку і падрыхтавалі новы плацдарм для высадкі. Аднак польскія пампежнікі і маракі працягвалі біцца. Гэта прымушала немцаў засыпаць паўвостраў не толькі бомбамі, але і ўлёткамі.

30 верасня немцы пачалі наступ. 10-я рота КАП панесла вялікія страты і вымушана была адступіць на другую лінію акопаў. Падраздзяленні вермахта працягвалі рухацца наперад і выбілі пампежнікаў і адтуль. У гэты момант маёр Ян Вісьнеўскі прыняў рашэнне ўзарваць мінную загароду, якая аддзяляла польскія пазіцыі ад жаўнераў вермахта. Выбух забіў шмат ворагаў, а немцы вымушаны былі перайсці да абароны.

1 кастрычніка 1939 года падраздзяленні 374-га нямецкага пяхотнага палка пачалі генеральны наступ. Каля 10-й гадзіны агонь спыніўся і адбылася сустрэча парламенцёраў. Увечары таго ж дня ў «Гранд-гатэлі» ў Сопаце польскае камандаванне хэльскім гарнізонам падпісала капітуляцыю. 2 кастрычніка ў порце Хэля высадзілася нямецкая пяхота. Пампежнікі КАП, якія яшчэ за год да гэтага ахоўвалі польска-савецкую мяжу, у першыя дні вайны аказаліся ў незвычайных для сябе ўмовах. Аднак яны змагаліся да апошняга і капітулявалі толькі тады, калі ўжо амаль уся тэрыторыя Другой Рэчы Паспалітай была акупавана нямецкімі і савецкімі войскамі.

Варта зазначыць, што Варшаву немцы ўзялі яшчэ 27 верасня...



Жаўнеры КАП пасля капітуляцыі



Жаўнеры верасня. Рэканструкцыя

## Што адбывалася на «рыжскім кардоне»?

Пакуль частка «капістаў» з батальёна «Сінкевічы» ў эшалоне ехала на далёкую Балтыку, у гарнізоне на Палессі ішла мабілізацыя прыпіснога складу. Рэзервістам выдавалі зброю, уніформу — і накіроўвалі на стражніцы. Для іх Другая сусветная вайна пачалася 17 верасня, калі Чырвоная Армія атакавала падраздзяленні КАП і ўварвалася на тэрыторыю Польшчы. Супраць пампежнікаў з батальёна «Сінкевічы» дзейнічалі падраздзяленні 17-га і 18-га памежных атрадаў НКУС СССР. У 7 гадзін раніцы чырвонаармейцы знішчылі стражніцы «Яськовічы» і «Морач». Падчас тых баёў у савецкі палон трапіў камроты, капітан Казімеж Грабоўскі. У 1940 годзе ён будзе расстраляны НКУС у Катыні.

Былі знішчаныя стражніцы роты «Пешчанкі», а гарнізоны застаў, якія ўваходзілі ў роту «Ленін», паспелі адысці на Захад. Апошняе было звязана з тым, што падраздзяленні 18-га памежнага атрада, якія павінны былі атакаваць польскіх пампежнікаў, не паспелі правесці канцэнтрацыю для ўдару з-за адсутнасці плаўсродкаў і не ажыццявілі наступ. 20 верасня ў раёне ракі Піны падраздзяленні батальёна «Сінкевічы» ўступілі ў бой супраць 205-га стралковага палка Чырвонай Арміі і падтрымалі адыходзячыя на захад падраздзяленні батальёнаў КАП «Клецк» і «Людвікава». Пампежнікі з Палесся працягвалі баявыя дзеянні да моманту капітуляцыі.

***P.S.*** *Аўтар артыкула цяпер праводзіць збор сродкаў на выданне альбома «Другая сусветная вайна на здымках з архіва Ігара Мельнікава». Новае выданне — гэта больш за 200 старонак фармату А4, на якіх будуць апублікаваны больш за 600 здымкаў. Падтрымаць выданне кнігі можна на пляцоўцы ulej.by.*

**Фота з архіву Ігара Мельнікава**

# Загадкавая гісторыя архімандрыта Судаплатава

Алесь КІРКЕВІЧ

**Прозвішча «Судаплатаў» нават у мінімальна абазнанай у гісторыі публікі асацыюецца з савецкім разведчыкам і дыверсантам, арганізатарам забойства Канавальца і Троцкага. Хто чуў пра манаха і царкоўнага дзеяча Судаплатава? Ды фактычна ніхто! А дарма.**


Чэкіст Судаплатаў — галоўны дыверсант Сталіна

З нашай краінай гэтую гісторыю звязвае, бадай, толькі тое, што менавіта ў Беларусі загадкавым чынам апынуўся архіў фота і пэўных дакументаў яе героя. Усё гэта зараз захоўваецца ў прыватнай калекцыі. Лёс героя ўтрымлівае больш пытанняў, чым адказаў, якія, імаверна, будуць знойдзеныя толькі пасля адкрыцця архіваў КДБ-ФСБ ды РПЦ МП.

## Савецкі педагог-франтавік ідзе ў манахі

Канстанцін Сцяпанавіч Судаплатаў нарадзіўся ў 1912 годзе ў сям'і служачага ў Астрахані. Рускі. Праваслаўны. Пасля школы ў 1930 годзе паступіў у Астраханскі педагагічны тэхнікум і, урэшце, стаў настаўнікам рускай мовы і геаграфіі. З 1935 года — школьны інспектар. Улетку 1941-га быў прызваны на фронт, адкуль дэмабілізаваўся толькі ў 1946 годзе. Вярнуўся з купай падзякаў і ўзнагародаў: Ордэн Чырвонай зоркі, медаль «За баявыя заслугі», восем падзякаў ад Вярхоўнага Галоўнакамандуючага... Судаплатаў — старшы лейтэнант.

Пасля вайны ён і надалей працаваў школьным інспектарам у Астрахані. З 1950 па 1954 год — сябар Таварыства па распаўсюдзе палітычных і навуковых ведаў. Пазней — дырэктар Бірукоўскай сярэдняй школы. Сярод іншага займаўся "творча-літаратурнай працай». Ва ўсім гэтым чытаецца партрэт узорнага педагога-франтавіка, максімальна лаяльнага да савецкай улады, пры тым — з добрымі кар'ернымі перспектывамі.

І тут — нешта пайшло не так.

У 1955-м Судаплатаў прыняў пострыг у манахі, пэўны час выконваў абавязкі сакратара епіскапа пскоўскага Іаана. Сам ён ужо не Канстанцін —Аўгусцін. Пад гэтым імем наш герой і будзе фігураваць у далейшым.

Навошта савецкаму педагогу-франтавіку ісці ў манахі? Згодна з аўтабіяграфіяй самога Аўгусціна — каб служыць «царкве і Радзіме ў манаскім званні». Цікавая фармулёўка, праўда?

## Службы ў Іерусаліме для чыноўнікаў ААН

Былога лейтэнанта Судаплатава «ў манаскім званні» чакаў проста фантастычны кар'ерны ўзлёт. Усяго праз год пасля пострыгу ўлетку 1956-га ён ужо — выконваючы абавязкі намесніка (!), то бок, непасрэднага кіраўніка Пскова-Пячорскага мужчынскага манастыра, другога па велічыні і колькасці манахаў мужчынскага манастыра ў РСФСР пасля Пачаеўскай лаўры, і трэцяга ў СССР. Для разумення сітуацыі варта ўзгадаць, што ад 1946 года ў РСФСР на працягу 40 гадоў наогул дзейнічалі ўсяго два (!) манастыры: Пскова-Пячэрскі і Троіца-Сергіева лаўра. У 1958 годзе наш герой стаў ужо непасрэдна ігуменам Пскова-Пячэрскай абіцелі.

Увосень 1959-га Судаплатаў нечакана быў прызначаны кіраўніком (!) Рускай духоўнай місіі ў Іерусаліме. Тут ён наладзіў дыпламатычныя адносіны з усімі рэлігійнымі і свецкімі іерархамі: ад каталіцкіх біскупаў да дыпламатычнага корпусу і чыноўнікаў са штабу ААН, якія прысутнічалі на арганізаваных ім службах (служыў там сам патрыярх Іерусалімскі Венядзікт).

Невядома з якой прычыны, але ў 1961-м Аўгустын пакінуў Іерусалім, ён быў адсунуты ад пасады. І тут — чарговая таямніца. Пра тое, чым займаўся Судаплатаў з 1961 па 1970 год, ніякіх сведчанняў наўпрост няма. На дзевяць гадоў адзін з топавых чыноўнікаў РПЦ МП проста знік... Каб з'явіцца зноў у 1970-м у ролі намесніка Троіца-Сергіевай лаўры, галоўнага і найбольшага мужчынскага манастыра у СССР.

Зрэшты, сваё апошняе служэнне на вяршыні кар'ернай лесвіцы архімандрыт Судаплатаў выконваў нядоўга. Праз слабае здароўе ў лаўры знаходзіўся эпізадычна, ягоныя абавязкі фактычна выконваў адзін з насельнікаў лаўры Варнава (Кедроў). Пайшоў з жыцця Аўгусцін (Канстанцін Судаплатаў) 27 ліпеня 1972 года.

## Сваяк сталінскага генерала-дыверсанта?

У літаратуры сустракаюцца сведчанні: маўляў, архімандрыт Аўгустын быў сваяком генерал-маёра Паўла Судаплатава — легендарнага дыверсанта, дзеяча савецкіх органаў дзяржбяспекі, намесніка начальніка 1 (выведніцкага) упраўлення НКДБ СССР. Менавіта ён выканаў забойства лідара ўкраінскіх нацыяналістаў Яўгена Канавальца ў Берліне і арганізаваў забойства самога Льва Троцкага ў Мексіцы па загадзе Сталіна.

Пра сваяцтва манаха з генералам, напрыклад, піша дзеяч рускай эміграцыі і пратаіерэй РПЦЗ (Руская Праваслаўная Царква на Захадзе) Аляксандр Трубнікаў у кнізе «Бліжні Усход — Калыска Праваслаўя»: «...яго замяняе архімандрыт Аўгустын (Судаплатаў), у сваяцтве з савецкім генералам Судаплатавым, выдатным кіраўніком савецкай выведкі. Да прызначэння на Св. Зямлю быў настаяцелем Пскова-Пячэрскага манастыра».

На жаль, Трубнікаў не прыводзіць відавочных доказаў і не тлумачыць, адкуль ведае пра сваяцтва архімандрыта з савецкім разведчыкам — падае гэта проста як факт. Паводле іншых дадзеных, у сям'і самога архімандрыта Аўгустына (са словаў дачкі яго пляменніка) пра такое сваяцтва не ведалі. З іншага боку, паводле карпаратыўнай этыкі спецыфічнага ведамства, у якім працаваў генерал і да якога, магчыма, меў адносіны архімандрыт, сваякі некаторых рэчаў не маюць права агучваць.

## «...служэнне царкве і Радзіме ў манаскім званні»

Аўстын-Судаплатаў у сваёй аўтабіяграфіі падводзіць чытача да думкі: маўляў, з дзяцінства ён быў глыбока рэлігійнай асобай. Больш за тое, менавіта з гэтай прычыны нават у шлюб не ўступаў: «Паводле глыбокага імкнення да манаства». Але ўсё гэта даволі слаба адпавядае дзейнасці, якой ён займаўся да пострыгу: настаўнік, школьны інспектар, дырэктар школы, сябар таварыства па распаўсюдзе палітычных і навуковых ведаў (білет №099679).

У сталінскія часы настаўнікі, а тым больш кіраўнікі школаў, стаялі ў перадавым атрадзе прапагандыстаў савецкага ладу і атэізму, а часцяком і непасрэдна падключаліся да калектывізацыі і барацьбы з рэлігіяй. Аўгустына-Судаплатава не толькі не закранулі рэпрэсіі — яму давяралі адказныя пасады, працу з сакрэтнай дакументацыяй у штабе падчас вайны, а значыць — лічылі чалавекам надзейным і лаяльным да партыі Леніна-Сталіна.

І тут вернемся да фразы з аўтабіяграфіі: «Звольніўся з грамадзянскай службы з мэтай прысвяціць другую частку жыцця шчыраму служэнню царкве і Радзіме ў манаскім званні». Дапусцім, што Аўгусцін сапраўды перажыў духоўнае перараўвасабленне і прыйшоў да рэлігіі — пасля вайны такіх выпадкаў было нямала. Манахам былі палітагітатар таксама мог стаць. Але ці мог зрабіць такую бліскучую — і вельмі хуткую — кар'еру?.. Наўрад ці.

Нагадаем, што праз год пасля прыняцця пострыгу, у 1956-м, Аўгусцін ужо выконваючы абавязкі намесніка, а праз тры гады — ігумен і намеснік другога па велічыні мужчынскага манастыра у СССР, а ў 1959-м — кіруе Рускай духоўнай місіяй у Іерусаліме. Ні для каго не таямніца, з якім ведамствам найшчыльнейшым чынам супрацоўнічала місія: ажно да 1991 года рэзідэнтура савецкага КДБ у Ізраілі знаходзілася менавіта тут, а ўсе духоўныя прызначэнцы перад выездам праходзілі праз узгадненне ў КДБ. Больш за тое, Іерусалім — гэта не толькі Ізраіль, але і вузел кантактаў з Блізкім Усходам, каталікамі, мусульманамі...

І Аўгусцін быў прызначаны кіраваць усім гэтым. Высновы, як кажуць, рабіце самі.

## Сталін, яўрэі, праваслаўе і «хрыбет славян»...

Напрыканцы прывядзём пару момантаў з успамінаў рускага пісьменніка-антысеміта Івана Шаўцова, аўтара скандальнага ў свой час рамана «Тля». Шаўцоў сустракаўся з Аўгусцінам, калі той ужо пакінуў працу ў Іерусаліме і быў намеснікам Троіца-Сергіевай лаўры. Калі верыць напісанаму, то Шаўцоў у асобе Аўгусціна-Судаплатава знайшоў не толькі ўдзячнага суразмоўцу, але і... аднадумца.

Вось адна цытата, прыведзеная Шаўцовым, якая, урэшце, дазваляе зразумець, што адбывалася ў галаве Аўгусціна-Судаплатава ўсе гэтыя гады, ва што ён верыў і для чаго працаваў:

«Трэба адраджаць праваслаўе. Па-мойму, Сталін гэта разумеў і зрабіў пэўныя паслабленні для царквы. А Хрушчоў адрадзіў метады Емяльяна Губельмана, пачаў пераследаваць, ціснуць, храмы разбураць. Праваслаўе — хрыбет славянаў. Ватыкан пайшоў на змову з іудзеямі, здрадзіў ідэям хрысціянства. Праваслаўе — адзіны захавальнік запаветаў Госпада нашага Ісуса Хрыста».

## Замест пасляслоўя

Падрабязная гісторыя супрацы праваслаўнага духавенства з савецкімі спецслужбамі, безумоўна, яшчэ павінна быць напісана. Пакуль мы маем толькі ўрыўкі інфармацыі, вядомыя праз адкрытыя архівы КДБ у Прыбалтыцы ды Украіне, альбо «злівы» кшталту вядомага «архіву Мітрохіна», які трапіў на Захад у 1990-х гадах. Менавіта дзякуючы апошняму мы ведаем пра шырокае выкарыстанне КДБ святароў для працы ў Заходняй Германіі, ЗША, Ватыкане, Вялікабрытаніі...

«Алтар», «Кузняцоў», «Есаўленка», «Патрыёт», «Магістр» і іншыя — усё гэта кодавыя імёны завербаваных КДБ прадстаўнікоў праваслаўнага кліру. Сярод іх, між іншым, агент «Драздоў», які працаваў у створаным КДБ таварыстве «Радзіма». Ён больш вядомы як патрыярх Алексій II, што папярэднічаў сённяшняму патрыярху Кірылу.

Хто ведае, магчыма, у будучыні сярод пераліку пазыўных з'явіцца і кодавае імя Аўгусціна...

У дадзеным матэрыяле мы, хутчэй, задаём пытанні. Менавіта пытанняў у лёсе Аўгусціна-Судаплатава значна больш, чым адказаў. Нават у падобным няпоўным выглядзе яго гісторыя дазваляе ў чарговы раз задумацца наконт архітэктуры царкоўнай іерархіі, кар'ерных ліфтаў у ёй ды асобаў, якія імі карысталіся ў часы СССР. Высновы ж хай кожны зробіць самастойна.


Аўгусцін падчас сустрэчаў у Іерусаліме




Фота Алены Ляшкевіч

# «У ложку з беларусам»

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Журналістка Настасся Зелянкова нядаўна выдала кнігу «У ложку з беларусам. З гісторыі нацыянальнага сексу», дзе сабрала звесткі пра інтымнае жыццё беларусаў ад эпохі паганства да сучаснасці.**

Як вядома, секс — адна з тэм, якой цікавяцца амаль усе. Журналістам гэта добра вядома. Для Настассі стварэнне кнігі пачалося з інтэрв'ю з фалькларысткай Таццянай Валодзінай, якая даследавала праявы эротыкі ў беларускай народнай творчасці. Потым Настассі Зелянковай стала цікава, а як жа ўсё было ў іншыя гістарычныя эпохі, у іншых саслоўяў, і ў выніку на аснове яе журналісцкіх матэрыялаў і атрымалася кніга. Яна выйшла па-руску, бо аўтарка хацела папулярызаваць беларускую гісторыю праз цікавую ўсім тэму, а тых, хто чытае па-беларуску, пераконваць у цікавасці беларускай гісторыі не трэба. Да гэтага Анастасія выдала кнігу пра даследчыка сталінскіх рэпрэсій Леаніда Маракова (у серыі «100 дзеячаў беларускай культуры») і наступную кнігу рыхтуе пра НКВД.

На прэзентацыі кнігі «У ложку з беларусам», што прайшла 7 верасня ў Прэс-клубе, Настасся Зелянкова распавяла некалькі цікавостак пра назву выдання: «Я разглядала таксама версіі "У ложку з беларускай", але гэта неяк пікантна, а "У ложку з беларусамі" — дык наогул...» Супрацоўнікі Нацыянальнай бібліятэкі, прымаючы выданне ў фонд, выказаліся так: «Нягледзячы на назву, кніга вельмі добрая».

Як ні дзіўна, пакуль не абурылася наконт выдання праваслаўная царква, а вось чытачы ўжо выказалі заўвагу, што хлопец, выяўлены на вокладцы, выглядае не як беларус. Але ён не прыйшоў, бо капаў бульбу! Што можа быць больш па-беларуску!

Адну з версій вокладкі адмялі, бо ў хлопца там атрымалася занадта цёмная скура, што таксама быццам бы не па-беларуску. Але загарэў ён не на паўднёвых курортах, а на градках! Таму прэтэнзіі больш не прымаюцца.

Пра што ж уласна кніга? Там ёсць, напрыклад, раздзелы «Што забыліся распавесці ў школе пра шклоўскі стод ды іншыя фалічныя артэфакты», «Што мы не ведаем пра святы, якія адзначаем круглы год», «Юрлівыя ліцвінкі на партрэтах і ў жыцці», «Што пісалі "пра гэта" ў XVI — XVIII стагоддзях і адкуль пайшла «кузькіна маці»», «Эротыка ў летапісе і на старонках Бібліі Скарыны», «Палавыя запаведзі рэвалюцыйнага пралетарыяту», «Як "адліга" размарозіла полавае пытанне», «Нажніцамі цэнзуры па тэкстах і органах».

Можна даведацца, што Барбару Радзівіл звалі «польскай Месалінай», а герояў-палюбоўнікаў у нашай гісторыі цэлая процьма: Тадэвуш Касцюшка, які лічыўся прыгажунчыкам, Станіслаў-Аўгуст Панятоўскі, які меў больш за сто пазашлюбных дзяцей, Стэфан Баторы, які гарадніча нак любіў не менш за Гародню, Ян Сабескі, які ў лістах да жонкі Марысенькі абмяркоўваў позы, што можна паспрабаваць у ложку...

Часамі найвялікшай сексуальнай разняволенасці Настасся Зелянкова называе XVI і пачатак XX стагоддзя. "Зацісканне гаек" звязвае з уваходжаннем у склад Рэчы Паспалітай, павелічэннем уплыву каталіцкага касцёлу, а ў XX стагоддзі — з усталяваннем сталінскай таталітарнай улады. У той жа час аўтарка адзначае значныя разыходжанні між заканадаўствам і жыццёвымі рэаліямі. У кнізе шмат ілюстрацый, у падборы якіх аўтарцы добра дапамагла культуралагічная адукацыя.

Фактычна, кніга Настассі Зелянковай стала чацвёртым грунтоўным выданнем пра гісторыю сексуальнасці на беларускім матэрыяле. Да гэтага ў Маскве ў 2006 годзе выйшаў «Белорусский эротический фольклор» пад рэдакцыяй Таццяны Валодзінай і Анатоля Фядосіка, у Смаленску ў 2015-м даследаванне Наталлі Сліж «Шлюбныя і пазашлюбныя стасункі шляхты ВКЛ у XVI — XVII стст.» і ў 2017-м у Мінску — кніга Аляксандра Гужалоўскага «Сексуальная рэвалюцыя ў Савецкай Беларусі. 1917–1929». На гэтым пакуль усё.

# Крышталёвы лебедзь каляровага міжчасоўя

Андрэй РАСІНСКІ



**Фільм Дар'і Жук «Крышталь», што вылучаецца ад Беларусі на «Оскар», працягвае скарацць фестывалі і ідзе ў беларускіх кінатэатрах.**

Фільмам то захапляюцца, называючы яго беларускім, то абураюцца, што ён «экспартны», бачаць у ім свята — і «чарнуху» адначасова, хваляць за дакладную атмасферу 1990-х — і ганьбяць за суцэльную неадпаведнасць эпосе. У фільме знаходзяць канфлікт горада і правінцыі, вайну побыту з марай, мужчынскі гвалт — і жаночую інфантыльнасць.

Але твор Дар'і Жук — гэта цудоўна забыты дэкаратыўны лебедзь, які трызніць палётам у шкляным сервансе. Гэта гісторыя крохкасці ў часы, калі час спыніўся.

І эпоха, і героі, і нават сам фільм — крышталёвыя лебедзі каляровага міжчасоўя.

Мінск, сярэдзіна 1990-х. Веля, якая падпрацоўвае дыджэем, марыць з'ехаць у Амерыку і падрабляе даведку для візы. Цяпер яна мусіць на кольькі дзён з'ехаць у правінцыю да незнаёмай сям'і, бо менавіта туды будуць тэлефанаваць з амбасады, каб праверыць анкетныя звесткі. А ў сям'і з мястэчка Крыштальнае рыхтуюцца да вяселля.

У фільме касетныя магнітафоны і тэлефоны з дыскамі, «Песняры» і пераход на Плошчы Перамогі, старэнькі аўтобус, што ледзьве паўзе, кнігі, груваст кія шафы, набітыя крышталём. Атмасфера месца і часу імгненна распазнаецца: гэта Мінск — і гэта 1990-я.

Але адначасова ў кадры — яскравыя, як не з гэтага свету, — чырвоныя, блакітныя, жоўтыя колеры (апаратарка — Караліна Коста). У музеі Азгура статуя Леніна — пякельна-жоўтая бадзёрая пачвара — сочыць за моладдзю, якая весела танчыць. Колеры зялёныя і колеры памаранчава-чорныя — фарбы рэферэндуму 1995 года і культу вечнай вайны — віснуць над гераіняй, якая замаруджана-вязка бяжыць уздоўж мура.

Гэта ўжо не толькі 1995 год — гэта сучаснасць. Час спыніўся, жыццё праходзіць.

Веля — у блакітным парыку і чырвоным паліто — разрывае замарожаны час, але супрацоўніцы крышталёвай фабрыкі — у чырвоных хустках і блакітных халатах — метадычна, паслядоўна гэты час падмарожваюць. Ці не ёсць гераіня крокхкім лебедзем, вытачаным на савецкім фабрычным станку?

Веля, ролю якой выконвае Аліна Насібуліна, — летуценная і ўпартая, але яе мары яшчэ не знаходзяць глебы, а Амерыка ў галаве выдуманая. Дзяўчына падкрадае ў матулі грошы — і адначасова хвалюецца за здароўе абакрадзенай маці.

Свабода непрытульная і няспелая, але і звычкі састарэлі, а завядзёнка ні да чаго не вядзе. Матуля галоўнай гераіні, ролю якой выканала Святлана Анікей, можа гаварыць пра духоўнасць і паўтараць школьнікам нудную лекцыю пра вайну ў Музеі Вялікай Айчыннай, але кускоў хлеба ў яе ад гэтага болей не стане, а сучаснасць і прышлае не гарантаваныя.

Не гарантаваная прышласць і правінцыйным героям (якая ў іх трасянка!), а іх сучасн асць — ненадзейная, крохкая. Мужчыны сталага веку — што ў сталіцы, што ў правінцыі — альбо ў сям'і адсутнічаюць (памерлі), альбо бессэнсоўна-бяздзейсныя.

За іх дзейнічаюць кабеты: гатуюць салаты, выцягваюць мужыкоў з пастарунку, робяць прычоскі (сакавіта-камічныя рэплікі дадаюцца).

Малады жаніх (Іван Мулін), які прыйшоў з арміі і ўсхваляе «парадак», яшчэ моцны і здольны на гвалт, але ягонае прышлае ўжо праглядаецца на дне крышталёвай бутэлькі. А пакуль — ёсць смех і ёсць вяселле. Ёсць стабільнасць і ёсць нязменнасць. Ёсць пацешныя недарэчнасці, звязаныя з гэтай нязменнасцю. Але як з гэтага вырвацца?

Многае тлумачыць апошні кадр, які для беларускага пракату быў выразаны. Гераіня праз аўтобусную шыбу бачыць Чарнобыльскі шлях, дэманстранты крычаць: «Свабода!». Гэта адзінае сведчанне іншай Беларусі, закаркаванай у міжчасоўі. Без гэтага грамадскага тлумачэння ўсе героі, дый сам фільм — становяцца больш крохкімі.

Стужка Дар'і Жук, якая сама вучылася ў ЗША, — гэта фільм вытворчасці Беларусі, Германіі, ЗША і Расіі. «Цэнзурнае» беларускае апраменьванне сутнасці карціны ўжо не мяняе. У беларускага кіно з'явілася надзея.

Савецкі сервант даўно разбіты. Крышталёвы лебедзь паляцеў.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №752

Падпісана да друку 14.09.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.